«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 5 (213), травень 2024 года


# Літаратурная Беларусь

Выпуск № 5 (213) (травень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

facebook.com/litaraturnaja.belarus
t.me/litaraturnajabelarus


## Змест





**ФОРУМ**

# Кароткая быліца пра нацыянальную ідэю



Віктар САЗОНАЎ




Пасля развалу сацыялістычнага лагеру маладыя незалежныя рэспублікі сталі на радасцях хутка будаваць сваю нацыянальную ідэалогію. Паколькі кожны народ на свеце хоча быць не толькі сытым, але і вечным, то само існаванне яго без нацыянальнай ідэі падаецца вельмі нелагічным і супярэчлівым.

Вось і пачалі яе шукаць у былых сацыялістычных краінах усе, хто не выкарыстаў смутны і мутны час для таго, каб узбагаціцца ў бізнэсе або зрабіць карʼеру ў палітыцы. А спрэчак было колькі, і кожны сваё хацеў! Але ўсе будавалі падмуркі на гістарычнай спадчыне.

Беларусы не былі выключэннем. Але пакуль яны займаліся пабудовай гістарычнай іерархіі, іншыя паразбіралі іхных і агульных нацыянальных герояў, як заўсёды спрытныя бабулькі разбіраюць соль, цукар і запалкі перад пачаткам вайны.

У нацыянальных колах тых часоў нават узнік такі анекдот. Нібыта паспрачаліся суседзі беларусаў пра тое, хто больш чалавецтву даў. Палякі кажуць: мы. Мы далі такога героя і воіна, як Касцюшка. І такога кампазітара, як Агінскі. Але тут рускія з імі не пагаджаюцца. Кажуць, наш Чайкоўскі не менш вядомы ў свеце музыка, чым ваш Агінскі. А такі мысліцель, як Дастаеўскі, увогуле для чалавецтва мае надзвычай вялікае значэнне. Можа, нават большае, чым мысліцелі антычнасці. І нават большае, чым мысліцелі будучага. І нават большае, чым уменне чалавека гаварыць.

Тут ужо і літоўцы не пагаджаюцца. Заела іх так, што аж кулакі пасціскалі. Кажуць, гэта іх Вітаўт Грунвальдскую бітву выйграў, таму і ёсць найвялікшым ваяром. А без перамогі на Грунвальдскім полі гэтая спрэчка ўвогуле не мела б аніякага сэнсу, бо ўсе прозвішчы вялікіх людзей былі б нямецкія.

І палякі кулакі пасціскалі. Як гэта ваш Вітаўт выйграў, калі гэта заслуга нашага Ягайлы? Гэта ён крыжакоў спыніў.

Так яны доўга спрачаліся, стаміліся, нібы сто дзён ішлі пад гару і супраць ветру і анічога не елі. А пасля крыху прыціхлі ды пытаюцца ў беларусаў:

— А вы што далі чалавецтву?

— Ды нічога мы не далі, — адказваюць беларусы.

— Як гэта, — дзівуюць суседзі. — Цэлы народ, і зусім анічога ды анікога не даў для чалавецтва!..

— Так, — пагаджаюцца беларусы. — Чалавецтву анікога не далі. А вось палякам далі Агінскага, рускім Дастаеўскага і Чайкоўскага ў прыдачу, літоўцам шмат чаго і каго, але і аднаго Вітаўта ўжо шмат. Бо ён сапраўды на Грунвальдзе ваяваў. Дарэчы, разам з Ягайлам, які Вітаўту братам быў, і таксама з зямлі беларускай. Так што мы шмат чаго і каго падарылі іншым народам. А вось чалавецтву неяк не атрымалася. Іншыя народы нас апярэдзілі, пакуль мы ад іх падзякі чакалі...

Ну, гэта ўсяго толькі анекдот. Хаця, як вядома, у кожным жарце ёсць крыху жарту.

Але спрэчкі наконт нацыянальных герояў разгараліся не на жарт. Гарэлі, як вогнішчы інквізіцыі, як маякі на Балтыцы, як вочы ў ката ноччу.

Вось аднаго разу сабраліся хлопцы нацыянальнай арыентаванасці і давай спрачацца.

— Наш Адам Міцкевіч, — кажа адзін. — Беларускага ён паходжання.

— Не, наш, — кажа другі. — Паляк ён ад крыві і косці.

— Ты яшчэ скажы, што і Булак-Балаховіч ваш, — ускіпеў першы.

— А табе дай волю, то ты і Пілсудскага сабе прыпішаш толькі з тае прычыны, што той меў няшчасце недзе ў вас нарадзіцца.

— А можа, гэта яго шчасце?

І давай хлопцы спрачацца, ажно пена з роту пайшла. Як у шалёных сабак у перыяд спарвання. Ніхто саступіць не хоча, як бараны на мосце.

Ды што там саступіць? Маўчаць ніхто не збіраецца.

Тут да спрэчкі і прыяцелі далучыліся. Раздымаць іх пачалі, супакойваць.

Напачатку было ўсё добра. Нібыта і атрымлівалася памірыць. А пасля пачалося. Хацелі зрабіць як лепш, а атрымалася — як заўсёды. Пачалі ўжо за грудзі хапаць цэлымі камандамі. Сценка на сценку.

Невядома, чым бы гэты навуковы дыспут скончыўся б, калі б не адзін дзед. Сядзеў ён напачатку ціха, слухаў толькі, як разведчык, якога справа запамінаць, а не ўплываць на сітуацыю. Але калі маладыя навукоўцы сталі свае навуковыя аргументы закасваць па локаць, вырашыў часова змяніць амплуа разведчыка на больш цывільную прафесію.

— Можа, перш чым сваімі гістарычнымі аргументамі пабʼеце морды адзін другому, — прапаноўвае ён, — спачатку мяне паслухаеце?

— А што, можа, дзед гісторык? — пытаюцца тыя.

— Гісторык не гісторык, — спакойна працягвае дзед, — а і Пілсудскага, і некаторую гісторыю на свае вочы бачыў.

— Ну то кажы, — крыху супакоіліся маладзёны.

— Ну то скажу, — усміхаецца дзед. — Мне здаецца, што не пра тое спрачаецеся і не пра тое размаўляеце вы. Лепш пагаварыце не аб тым, чый Міцкевіч, а пра тое, які ён. І што з яго не грэх і прыклад узяць і тым, і другім. Бо адны з вас кажуць: «Наш Міцкевіч», і другія: «Не, Міцкевіч наш». Усе сабе хочуць забраць. А падумайце, чаму кожны хоча яго прысвоіць? І лепш самі паспрабуйце такімі постацямі стаць, каб пра вас хоць нехта сказаў: «Наш». Бо вось, прыкладам, пра некаторых усе кажуць: «Ён не наш, ваш ён». А другія: «Не, ён ваш». Ніхто сабе такіх не хоча. Усе адракаюцца. Адзін другому ўпіхнуць хочуць. А Міцкевіча кожны хоча забраць сабе... Вы, — працягвае дзед, — і можаце стаць той нацыянальнай ідэяй. Яна з вас і пачынаецца. А гістарычныя постаці пасля скажуць, хто з вас іхны. Вось тады яны і вырашаць, з кім з вас застацца.

Пімен ПАНЧАНКА

***

*Бой пад вечар скончыўся,*
*А мы ўсё*
*Пра атаку,*
*Хоць былі ўжо «тыл».*
*І ніхто яшчэ з нас не памыўся,*
*І ніхто яшчэ з нас не астыў.*

*І ляжаць сябры ў магіле братняй —*
*У каманды пахавальнай многа спраў.*
*Не спяшыў камбат пісаць аб стратах,*
*Аб сваіх салдатах гараваў.*

*Кроіў хлеб мой друг рукою чорнай,*
*З гімнасцёркі не абмыўшы кроў.*
*Выпівалі па чатыры нормы —*
*Нашы*
*І загінулых сяброў.*

Яўгенія ЯНІШЧЫЦ

***

*Арліны храм. Узмежак беразовы.*
*І твар сялянкі жытна-верасны.*
*Усё ў адным злілося пеазове —*
*Нашэсце грому, ласкі і вясны!*

*Шугнула жыта там, дзе спелі кулі,*
*Дзе раць у раць ішлі на смерць сыны.*
*Усё ў адным трывожна-гордым гуле:*
*Нашэсце птушак, думак і віны.*

*Чый светлы цень гукаецца ў бярозе,*
*Чыё не ўстала з попелу сяло?*
*Мы пасядзім з табою на парозе,*
*Мой крохкі боль і ціхае цяпло.*

*Франтавікі, Баяны, аднасельцы,*
*Насельнікі аблок і гарадоў...*
*Усё ў адным шчасліва-горкім сэрцы:*
*Гісторыя. Трагедыя. Любоў.*

# Граматыка жыцця і дзейнасці Браніслава ТАРАШКЕВІЧА

Яўген ЕСІС

***Беларускае пісьмовае слова паўставала з небыцця, грунтуючыся на жывых народных гутарках, бо сувязь з сярэднявечнай старабеларускай мовай была страчана — «дзякуючы клопатам» спярша польскіх, а пасля расійскіх вялікадзяржаўнікаў. Беларускім адраджэнцам давodзілася пачынаць практычна з нуля.***

### Першыя крокі

Будучы славуты дзеяч беларускага Адраджэння Браніслаў Тарашкевіч з'явіўся на свет 20 студзеня (па старым стылі) 1892 года ў сям'і беларускага селяніна. За права называцца месцам яго нараджэння «спаборнічаюць» засценак Мацюлішкі, што 25 кіламетраў ад Вільні, і засценак Чарнулішкі.

У сям'і Адама і Алены Тарашкевічаў было шмат дзяцей, але выгадаваліся толькі трое. Бронік з першых гадоў пазнаваў дзве мовы: беларускую і польскую. Дома вывучаў і чытаў на памяць вершы Францішка Багушэвіча. Да дванаццацігадовага ўзросту пасвіў жывёлу і адначасова наведваў пачатковую школу ў Лаварышках.

У 1906 годзе паспяхова здаў экзамены ў Другую Віленскую гімназію. Падчас вучобы ў гімназіі пачаў супрацоўнічаць з «Нашай Нівай». У № 48 за 1913 год з'яўляецца ягоны артыкул «За нашу і вашу свабоду», прысвечаны роднай мове: «Родная мова ва ўрадзе, у школе найпатрэбней якраз для простага народу... Дзеля гэтага канечнай патрэбай дэмакратызацыі ёсьць дэмакратызацыя культуры, — бяз гэтага свабода палітычная — адна мёртвая літара».

### Замест Багдановіча

У 1911 годзе Б. Тарашкевіч са срэбным медалём скончыў гімназію і стаў студэнтам гісторыка-філалагічнага факультэта Пецярбургскага ўніверсітэта.

«Наша ніва» дамовілася з акадэмікам А. Шахматавым, каб той дапамог паступіць ва ўніверсітэт каму-небудзь з нацыянальна свядомых беларусаў. Спачатку была прапанавана кандыдатура Максіма Багдановіча, аднак — калі па стане здароўя той мусіў адмовіцца — паехаў Тарашкевіч...

Паводле дамоўленасці з А. Шахматавым, Б. Тарашкевіч павінен быў атрымаць усебаковую падрыхтоўку, каб пасля прыступіць да стварэння першай граматыкі сучаснай беларускай мовы і заняцца ўпарадкаваннем нацыянальнага правапісу.

Б. Тарашкевіч паспяхова закончыў вучобу ды быў пакінуты прыват-дацэнтам на кафедры расійскай мовы і літаратуры.

### Пошукі свайго месца

І адразу актыўна ўключыўся ў беларускае грамадска-палітычнае жыццё, увайшоў у склад ЦК Беларускай Сацыялістычнай Грамады. У сярэдзіне 1918 года Грамада распалася. Адна частка на чале з Язэпам Лёсікам, Аляксандрам Прушынскім, Антонам і Іванам Луцкевічамі ды Б. Тарашкевічам стварыла Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю.



Браніслаў Тарашкевіч з жонкай Верай Сніткай і сынам Радаславам, другая палова 1920-х гг.

Улетку 1918 года Тарашкевіч пакінуў Петраград і прыехаў на Віленшчыну. Праз некалькі месяцаў пабыўкі ў бацькоў ён накіроўваецца ў Менск, прымае ўдзел у стварэнні Беларускага педагагічнага інстытута. З нагоды прыходам бальшавікоў эмігруе.

У тое ж лета 1918-га адбываецца значная для ўсёй Беларусі падзея: выходзіць з друку ягоная «Беларуская граматыка для школ».

### Польскія надзеі

З разарванай на дзве часткі Беларусі Тарашкевіч выбраў для сябе тую, на якой распаўсюджваўся ўплыў Польшчы. Ён і нямала беларусаў-незалежнікаў уцягнуліся ў рэалізацыю «федэратыўных» планаў Пілсудскага.

Вясной і летам 1919 года Тарашкевіч жыў і працаваў у Варшаве. Напрыканцы 1920-га заняў прапанаваную яму ўрадам Сярэдняй Літвы пасаду кіраўніка беларускага сектару ў дэпартаменце асветы. Працаваў і ў Беларускім нацыянальным камітэце.

З 1919 па 1923 гады Б. Тарашкевіч належаў да адной з найбольш вядомых у Польшчы масонскай ложы «Праўда». Галоўным фактарам, які яднаў Тарашкевіча з братамі масонамі, магла быць іх непадробная ўвага да нацыянальнага пытання і спосабаў яго вырашэння.

Дзякуючы намаганням Тарашкевіча ўзнікла Таварыства Беларускай Школы (ТБШ). Ён стаў яго старшынёй.

У верасні 1921 года па ініцыятыве Вацлава Ластоўскага Тарашкевіч быў запрошаны на Усебеларускую канферэнцыю ў Прагу. Пасля гэтага адбылася перамена ў адносінах Тарашкевіча да палітыкі Польшчы...

Ён актыўна займаўся выданнем падручнікаў, навуковых дапаможнікаў, працаваў над другой часткай беларускай граматыкі — сінтаксісам. Гэтая праца ў 1923 годзе была завершана, і «Сінтаксіс беларускай мовы» здадзены ў друк. (На жаль, па нейкіх прычынах ён не выйшаў, а рукапіс да гэтага часу не знойдзены.)

Высілкамі Б. Тарашкевіча быў распрацаваны план перакладу на беларускую мову лепшых твораў сусветнай класікі. Асабіста Тарашкевіч узяўся перакласці «Іліяду» Гамера. Гэтую працу ён закончыў у 1927 годзе ў польскай турме. Рукапіс перакладу таксама згублены. У перыёдыцы апублікаваныя толькі дзве перакладзеныя песні «Іліяды»...

### Беларускі пасольскі клуб

5 лістапада 1922 года былі прызначаны выбары ў Сойм Рэчы Паспалітай. З гэтага часу пачынаецца новы, самы напружаны перыяд жыцця Б. Тарашкевіча. Ён уваходзіць у Беларускі цэнтральны выбарны камітэт і ўключаецца ў барацьбу за месцы ў Сойм ад беларускага народа (за спіс № 16). У выніку гэты спіс на беларускіх землях набраў большасць галасоў, і ў Сойм было выбрана 11 дэпутатаў (паслоў) ад беларусаў, а ў Сенат — 3.

Пасля выбараў беларускія дэпутаты так званага блоку нацыянальных меншасцяў, сярод якіх быў і Тарашкевіч, стварылі сваю фракцыю — Беларускі пасольскі клуб (БПК). Старшынёй клуба абралі самага маладога дэпутата Тарашкевіча, які ўжо здолеў набыць вялікі аўтарытэт.

Тарашкевіч дамагаецца зямлі сялянам без выкупу, школы на роднай мове ў беларускіх ваяводствах, тэрытарыяльнай аўтаноміі.

Ён быў выдатным трыбунам. Ён часта браў слова на парламенцкіх пасяджэннях. Ягоныя прамовы былі лагічна пабудаваныя, аналітычныя, з пачуццём гумару, іроніі.

Але ўжо ў 1925 годзе Б. Тарашкевіч зразумеў, што прамовамі нельга дамагчыся чаго-небудзь істотнага. З чэрвеня ў Беларускім пасольскім клубе — раскол. Тарашкевіч з паплечнікамі пакідаюць яго і ўтвараюць новы пасольскі клуб Беларускай сялянска-рабочай грамады (БСРГ).

### У «Грамадзе»

Б. Тарашкевіч прыходзіць да высновы, што толькі сам народ рэвалюцыйным шляхам зможа дапамагчы сабе, устанавіўшы ўладу рабочых і сялян. Наладжваюцца сувязі з Камуністычнай партыяй Заходняй Беларусі.

У снежні 1925 года Б. Тарашкевіч нелегальна едзе ў Маскву, каб прыняць удзел у III канферэнцыі КПЗБ.

Б. Тарашкевіч ачольваў БСРГ. Ён быў і асноўным аўтарам яе праграмы, у якой першым пунктам значылася аб'яднанне ўсіх беларускіх земляў у адну незалежную рэспубліку пад уладай сялян і рабочых. У дзейнасці Грамады значнае месца займала культурна-асветніцкая дзейнасць, барацьба за нацыянальную школу, арганізацыя друкаваных органаў. Трыбунай Грамады сталі газеты «Беларуская ніва», «Народная справа», «Беларуская справа».

Масавы народны рух моцна напалохаў польскія ўлады: пачаўся пераслед Грамады. На пачатку 1927-га Тарашкевіч выступіў перад прадстаўнікамі грамадскасці, беларускімі палітыкамі і дзеячамі культуры. Ён сказаў: «Ідзе суровая барацьба за сацыяльную і нацыянальную свабоду беларускага народу. Год ад году яна мацнее. А дзе змаганне, там будуць і ахвяры. Мы павінны быць да іх гатовы».

Гэтыя словы былі прарочымі.

### Блуканні па турмах

У ноч з 14 на 15 студзеня 1927 года прайшлі арышты «грамадоўцаў», у лютым 1928-га пачаўся судовы працэс над Грамадой — гучны «Працэс 56». БСРГ абвінавачвалі ў шпіёнскай дзейнасці на карысць БССР, у імкненні адарваць «крэсы ўсходнія» ад Польшчы. Кіраўнікі БСРГ — Б. Тарашкевіч, С. Рак-Міхайлоўскі, П. Валошын, П. Мятла — былі асуджаныя на 12 гадоў турэмнага зняволення.

Для Тарашкевіча пачалося «блуканне» па турмах: Лукішкі, Вільня, Вронкі, Грудзёнец, Беласток...

Але і за кратамі ён працягваў змагацца. Пісаў і перадаваў на волю адозвы, дапамагаў іншым вязням павысіць адукацыю. У турме ён перапрацоўвае «Беларускую граматыку для школ», працягвае перакладаць на беларускую мову «Іліяду» Гамера. У няволі даведваецца, што яго абіраюць правадзейным членам Акадэміі навук БССР.

У 1929-м апеляцыйны суд зменшыў Б. Тарашкевічу тэрмін зняволення да 6 гадоў. А ў ліпені 1930-га па спецыяльным рэскрыпце прэзідэнта грамадоўцы былі вызваленыя.

Пачаліся нелегальныя сустрэчы, удзел у канферэнцыі ў Маскве і актыўная работа ў выбарнай кампаніі 1930 года. У кастрычніку ў Вільні быў утвораны напаўлегальны Беларускі цэнтральны сялянска-работніцкі выбарны камітэт «Змаганне», які ўзначаліў Б. Тарашкевіч.

У лютым 1931 года яго зноў арыштавалі і пасадзілі ў Гродзенскую турму, канфіскавалі матэрыялы КПЗБ і камітэта «Змаганне».

Пакуль вялося следства, Б. Тарашкевіч пераклаў на беларускую мову большую частку «Пана Тадэвуша» Адама Міцкевіча, якую праз жонку перадаў на волю.

Чарговы суд — і 8 гадоў турмы, 10 гадоў пазбаўлення грамадзянскіх правоў...

Заслугі Б. Тарашкевіча перад дэмакратычным рухам былі прызнаныя ў Еўропе. Летам 1933 года ў Парыжы праходзіў Еўрапейскі антыфашысцкі кангрэс, на ім Тарашкевіча выбралі членам ганаровага прэзідыума разам з Горкім, Тэльманам, Дзімітравым, Раланам.



БЕЛАРУСКАЯ ГРАМАТЫКА
ДЛЯ ШКОЛ
Напісаў кандыдат філёлёгіі Петрагр. Унівэр.
Б. Тарашкевіч.
Выданьне «Беларускага Камітэту».
Zur Verbreitung im Gebiet des Militär-Gouvernements Litauen und zur Ausfuhr zugelassen. Presseabteilung des Militär-Gouvernements Litauen.
ВІЛЬНЯ.
Друкарня М. Кухты.
1918 г.

Беларуская граматыка Тарашкевіча, 1918 г.

А ў верасні 1933-га ў выніку перамоў паміж Польшчай і Савецкім Саюзам адбыўся абмен вязнямі, так званыя «краты на краты»: Б. Тарашкевіч апынуўся ў СССР, а ў Польшчы — сталінскі зэк драматург Францішак Аляхновіч.

Усяго ў польскіх турмах Б. Тарашкевіч правёў 5 гадоў 10 месяцаў і 12 дзён...

### Свабода фізічная, няволя духоўная

Браніслаў Тарашкевіч трапляе ў Менск, дзе яго сустракаюць як героя. Але сяброў сваіх, якія раней за яго перайшлі ў СССР, ён не сустрэў: яны ўжо сядзелі ў сталінскіх лагерах. Вядомаму вучонаму знайшлася праца... у Маскоўскім міжнародным аграрным інстытуце ў аддзеле Польшчы і прыбалтыйскіх краін.

Б. Тарашкевіч вывучае сутнасць аграрных адносін у Польшчы, Японіі, Кітаі, гітлераўскай Германіі. Друкуецца ў часопісе МАІ «Аграрныя праблемы», у зборніку «Польская вёска ў час крызісу».

У 1935 годзе асобнай брашурай выходзіць ягоная праца «Як жывуць сяляне за мяжой».

Калі пачалася вайна ў Іспаніі, Б. Тарашкевіч напісаў заяву, каб яго адправілі туды змагацца. Рыхтаваўся. Але 6 мая 1937 года яго арыштавалі і накіравалі ў Менск. Ёсць сведчанне аб знаходжанні Б. Тарашкевіча ў турме па вуліцы Валадарскага.

29 лістапада 1938 года Б. Тарашкевіч расстралялі. У пасведчанні аб смерці, дасланым ягонай жонцы, паведамілі: «Памёр 22 лістапада 1941 года ў выніку недастатковасці сэрца».

### Галоўная спадчына

«Беларуская граматыка для школ» Браніслава Адамавіча Тарашкевіча — праца, у якой упершыню былі вызначаныя правапісныя і граматычныя нормы сучаснай беларускай мовы. Яна была надрукаваная ў 1918 годзе паралельна кірыляўскімі і лацінскімі літарамі ў знакамітай друкарні Марціна Кухты ў Вільні. Гэтая граматыка, у адрозненне ад іншых тагачасных беларускіх граматык (Б. Пабочкі, А. Смоліча, А. Луцкевіча, Я. Станкевіча) аказалася найбольш удалай. Складзеная проста, з арыентацыяй на вучня, але на высокім навукова-метадычным узроўні, яна задаволіла найбольш надзённыя патрабаванні выдавецкай і школьнай практыкі, атрымала ўсеагульнае прызнанне.

Беларусізацыя 20-х гадоў ХХ стагоддзя занатоўвалася «тарашкевіцай», якая і сёння абараняе нашую моўную «мяккасць»: сьнег, сьмех...

# Асобы і алкаголь

## Словы пра выпіўку



Адам ГЛОБУС

### Сяргей і чарка

Ты сябруеш з Сяргеем, бо ведаеш, што ён нальё табе чарку гарэлкі, калі ты будзеш паміраць ад пякельнай смагі. Ты сябруеш з ім да тае пары, пакуль ён раптам не нальё патрэбнай чаркі.

Сяргей мае ўласны бар, там заўсёды шмат гарэлкі, і ён навучыўся адмаўляць тым, у каго няма рубля на выпіўку. Ён адмовіць не табе, а іншаму, незнаёмцу. У тым незнаёмцы ты пабачыш сябе, і тваё сяброўства з бармэнам Сяргеем скончыцца. І гэта стане яшчэ адной са шматлікіх нагодаў, каб кінуць выпіваць. Ты кінеш. Не з першага разу, але кінеш. Ад выпівак застануцца ўспаміны, розныя, бо выпіваў я з самымі рознымі людзьмі, і ў мяне ёсць каго згадаць з чаркай ці келіхам у руцэ...

### Крапіва і шахматы

Байкапісец Кандрат Крапіва, як і большасць байкароў, быў вясёлым, з'едлівым і саркастычным. Аднаго разу, на святкаванні васьмідзесяцігоддзя са дня нараджэння Максіма Багдановіча ў тэатры Янкі Купалы, я прасядзеў побач з ім усю ўрачыстую частку. З другога боку ад Крапівы сядзеў Міхась Лынькоў. Пакуль на сцэне гучалі прамовы ў гонар вечна маладога Максіма, Стары Кандрат Кандратавіч расказваў сівому Лынькову анекдоты і кпіў з выступоўцаў. Не стану хаваць, на тым святкаванні Крапіва і Лынькоў сваёй нязмушанасцю і гумораю мне спадабаліся, гэта, бадай, адзінае, што мне тады было даспадобы... Не! Упадабаў яшчэ і тое, што я сядзеў у першым шэрагу, бо спазніўся, і вольнае месца было толькі там — побач з дзедам Кандратам... Другі раз я паслухаў жарты Кандрата Кандратавіча ў яго ганай кватэры, калі мой блізкі сваяк Анатоль ажаніўся з унучкай Крапівы — Аленай. Вяселле гулялі не ў рэстарацыі, а ў кватэрах. Добра, што ў сям'і Кандрата Кандратавіча было ажно дзве вялікія кватэры на адной пляцоўцы, таму процьма гасцей, што прыйшлі на вяселле, неяк змясціліся за шматлікімі сталамі. Самым гарэзлівым на тым свяце быў сябрук Анатоля — скульптар Валодзя Жбанаў, а самым сціплым і ціхмяным наш дзядзька Чэсь — тата Анатоля. Ён увесь вечар прасядзеў у кабінеце Кандрата Кандратавіча, дзе яны з гаспадаром гулялі ў шахматы. Разам з бацькам я схадзіў у той кабінет, каб павіншаваць дзеда з вяселлем унучкі і сказаць, які цудоўны хлопец наш Анатоль. Крапіва казаў, што калі б наш Анатоль не быў цудоўным, дык і вяселля ніякага не гулялі б. Ведаючы, які з'едлівым бывае Кандрат Кандратавіч, я не стаў затрымлівацца ў яго ным кабінеце, шчыльна пазаста ўленым дарагой мэбляю з цёмнага дрэва. Я вярнуўся на сваё месца за стол і працягнуў выпіваць ды закусваць разам з графікам Уладзімірам Вішнеўскім. Назакусваліся мы ў той вечар у гасціннага Кандрата Кандратавіча Крапівы напоўніцу.

### Янішчыц і шампанскае

У маладосці бярэшся за любую працу, якая прыплыве ў рукі. Так на кароткі час я стаў плакатыстам. Разам з жонкай зрабіў плакат рок-гурту ULIS і плакат паэтцы Яўгеніі Янішчыц. Жонка зладжвала фотасесію, а я маляваў шрыфты і адказваў за агульную кампазіцыю. Звычайны плакат рабіўся памерам 60 на 90 сантыметраў, але я ўгаварыў Яўгенію зрабіць плакат сціплейшага памеру — 45 на 60, бо так ён стане вылучацца. Яшчэ я пераканаў Жэню ў тым, што варта надрукаваць плакат не каляровым, а чорна-белым.

Пэўна, у мяне нічога не выйшла б, каб не шампанскае. Калі скончылася фотасесія, Янішчыц вырашыла пачаставаць нас шампанскім, дастала з лядоўні бутэльку і папыталася, ці ўмею я адкаркоўваць такія напоі. У мяне атрымалася акуратна пакінуць корак у руцэ і разліць шампанскае па келіхах. Мы пілі ледзяны напой маленечкімі глыткамі, каб не застудзіць горла.



Быў цёплы вераснёвы дзень, можна было шырока адкрыць акно і слухаць, як недзе блізка пазвоньвае і пагрукквае трамвай, як шапоча пад ветрам цёмная лістота, як смяюцца школьнікі. Мы пілі шампанскае, стоячы пасярод пакоя, бо на крэслах, на стале і нават на ложку Яўгенія параскладала аркушы з надрукаванымі вершамі, з іх яна складала новы зборнік...

У тыя часы мала хто выпіваў стоячы і без закускі. Таму мне так ярка помніцца шампанскае solo ў беларускай паэткі.

Жэня Янішчыц, як вучыла Како Шанэль, мела маленькую чорную сукенку. На фотасесіі яна здымалася ў той чорнай сукенцы. Ёй пасавала чорная сукенка, келіх з шампанскім — таксама, і я крыху шкадую, што на маім плакаце паэтка ў чорнай сукенцы, але ж без келіха з шампанскім.

### Рыбараў і прэм'ера

З кінарэжысёрам Валерыем Рыбаравым я выпіваў у «Доме кіно» пасля прэм'еры фільма «Чужая бацькаўшчына». Выпіваў — не зусім падыходзіць да Рыбарава, бо ён, варта сказаць, ніколі і не выпіваў; але, між тым, навучыў мяне таму, што алкаголь паляпшае добры настрой і пагаршае настрой дрэнны.

Дзякуючы Рыбараву я заўсёды стараўся выпіваць толькі тады, калі быў у гуморы. На адной з нашых сустрэч Валерый Рыбараў сказаў, што я ў аўстрыйскім макінтошы выглядаю цудоўна, бы сапраўдны прафесар, і ён шкадуе, што ў яго ным чарговым фільме няма прафесара, якога я мог бы сыграць.

Такім чынам я выпіваў з Рыбаравым толькі пасля адной прэм'еры, а мог бы і пасля двух, каб сыграў прафесара ў сваім макінтошы, прывезеным з Вены.

### Стральцоў і міноры

Чытанне прозы Міхася Стральцова — занятак прыемны, прынамсі, для мяне. За словамі, за сказамі, за апавяданнямі, акрамя апісанага ім света, я бачу і жывога аўтара — жывога Стральцова. Для мяне гэта і ёсць найкаштоўнейшым у чытанні...

«А ты разводзіш розныя міноры...» Такое мог напісаць толькі Стральцоў, бо сам усё жыццё і разводзіў розныя міноры. Вось табе пытанне са стральцоўскага роздуму: «Навошта дрэва высока ўгору выносіць свае шаты, навошта сумуе па грыбных зацішках роснай зямлі?». Нешта ў тым пытанні ёсць і ад імпрэсій Жуля Рэнара, але стральцоўскага мінору ў ім значна больш. Нават гумар у Міхася Стральцова меў прахалоднае і мінорнае адценне.

Аднаго разу я папытаўся ў яго пра сатырыка Рыгора Яўсеева, бо не мог знайсці таго ў выдавецтве, і пачуў народнае: «Рыгор пайшоў сабакам сена касіць...». Адным словам, шукаць Яўсеева ў выдавецкіх кабінетах і калідорах не мела сэнсу, і можна было сказаць, што Рыгор пайшоў піць-гуляць з сабутэльнікамі, ды Стральцоў загарнуў свой адказ у народны выраз, каб, сказаўшы праўду, не зняважыць чалавека.

Кажучы і пішучы пра выпіўкі, я таксама тут стараюся, услед за Стральцовым, з якім мацнейшага за гарбату ніколі нічога не выпіваў, не зневажаць вядомых людзей.

### Анікейчык і каньяк

Скульптар Анатоль Анікейчык частаваў мяне каньяком і шакаладкай. У майстэрню да Анікейчыка я прыйшоў, каб напісаць пра ягонае дзяцінства ў часопіс «Беларусь».

Анатоль расказаў цудоўную гісторыю пра металічную клямку, якая стаяла на дашчаных весніцах у Барысаве. Хлопчык Толя ўзяўся рукою за нагрэтую летнім сонцам клямку і адчуў сваё пакліканне — рабіць рэчы з металу. Тады барысаўскі хлапец яшчэ не ведаў, што стане аўтарам шматметровых бронзавых помнікаў, але ад тых весніцаў з жалезнай клямкай пачаўся ягоны шлях у выбітныя майстры...

Мы пілі каньяк маленечкімі чарачкамі, бо Анатоль Анікейчык успрымаў гэты духмяны напой як каштоўныя лекі. Гэта была мая апошняя сустрэча і размова з аўтарам найлепшых помнікаў, якія беларускі народ паставіў свайму прароку — паэту Янку Купалу.

Калі Анікейчык памёр, сябры казалі, што ён проста не паспеў выпіць маленечкую чарку каньяку, каб расшырыць сасуды. Канешне, я сумняюся, што гэта праўда, ды сябрам хацелася верыць у чароўную сілу моцнага напою. Яны пілі каньяк за жалобным сталом і верылі, а я згадваў маленькага хлопчыка каля весніцаў у горадзе Барысаве. Згадваў, як ён бярэцца рукою за клямку і пачынае доўгае падарожжа ў творчасць.

### Быкаў, Адамовіч і банкет

Паэта Валодзю Марука прынялі ў Саюз пісьменнікаў — падзея! Такія падзеі тады адзначалі банкетам, куды запрашалі гасцей і кіраўнікоў Саюза. Сярод тагачасных кіраўнікоў запомніліся мне Максім Танк, Васіль Быкаў і Алесь Адамовіч.

Валодзя Марук у якасці гасцей прывёў Анатоля Сыса і мяне. За доўгім, нібыта вясельным сталом, я апынуўся акурат насупраць Васіля Быкава. У мяне нават з'явіўся кволы спадзеў, што змагу пагаварыць з Васілём Уладзіміравічам. Пагатоў пасля першага тоста, які сказаў Танк, павіншаваўшы новых сяброў, я нават чокнуўся сваёй чаркай гарэлкі з чаркаю Быкава. Тым чоканнем мая выпіўка з Быкавым і скончылася, бо да яго падсеў Алесь Адамовіч, і яны завялі сур'ёзную і цвярозую гутарку пра кіно, вайну і немцаў, а я пайшоў да пісьменніцы Хрысціны Лялько і зрабіў малапрыстойную вясёлую прапанову: панасіць яе на руках. Хрысціна смяялася, казала, што яна цяжкая і ў мяне нічога не атрымаецца. Я прысеў, падхапіў Хрысціну на рукі, выпрастаўся і пайшоў праз банкетную залу. Было цяжкавата, бо Хрысціна спрабавала выслізнуць з маіх абдымкаў. Генадзь Бураўкін тады сказаў: «Ну вы даяцё!». Я акуратна паставіў Лялько на падлогу і пакінуў банкет.

З Адамовічам і Быкавым я больш ніколі не сядзеў за адным сталом, што ўжо і невыпраўляльна, а вось з Хрысцінай Лялько яшчэ можна і пабаляваць, калі раптам якая нагода здарыцца.

### Мікалай і стол прарэктара

Даведаўся ад знаёмцаў пра нечаканую смерць Колі — Мікалая Івашына. Апошнія гады мы з ім сустракаліся выпадкова на праспекце Незалежнасці. Коля любіў доўгія шпацыры па горадзе. У нашых кароткіх гутарках ён жаліўся на цяжкі стан хворай жонкі. Яна доктар, а таму сама ўсё выдатна ведае пра кепскі стан здароўя і мізэрныя спадзевы на папраўку. Я спачуваў іх сямейнаму гору і стараўся звярнуць гутарку ў іншы, больш аптымістычны бок. Я згадваў, як мы разам адзначалі новы год у кватэры ягонага бацькі — прарэктара ўніверсітэта, як у нас скончылася выпіўка, і Коля сказаў, што ў бацькавым кабінеце, у шуфлядцы стала, схаваная бутэлька добрага каньяку. Шуфлядка была зачынена на ключ, але гэта нас не спыніла, мы адвінцілі шрубы на задняй панэлі стала, прыўзнялі стальніцу і выцягнулі бутэльку.

Смачнейшага каньяку мы ў жыцці не каштавалі. Прынамсі, нам так тады здавалася. Трэба сказаць, што каньяк быў французскі, сапраўдны і моцны...

Цяпер няма Колі. Даўно няма сярод жывых і ягонага бацькі, у якога мы пазычылі бутэльку з «Napoleon»-ам. Праўда, ёсць яшчэ мама Мікалая — спадарыня Івашына, ёй амаль сто гадоў, і ўсе не ведаюць, як і калі ёй сказаць пра смерць любімага сына.

Заканчэнне на стар. 4 »

# Асобы і алкаголь

## Словы пра выпіўку

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 3



Фота pxhere.com

### Казінец і бярозы

З выбітным дырыжорам Міхаілам Казінцом я выпіваў разам з яговым тагачасным зяцем Міколкам, мастаком Уладзімірам Сцяпанам і кампазітарам Андрэем Мдзівані. Выпівалі па-простаму, седзячы на кухні ў Казінца. Вялі няспешную гутарку пра паэзію Францішка Багушэвіча. Казінец казаў, што для яго ў вершах Багушэвіча не хапае музычнасці, не стае ўзнёсласці, што яны занадта сялянскія, як даматканае палатно. Ён яшчэ удакладніў: «Нават не як палатно, а як сукно для салдацкага шыняля». Я хваліў Мацея Бурачка — Багушэвіча, бо менавіта ён даў беларускай паэзіі новае дыханне, з яговай «Дудкі» пачынаецца ўласна наша новая літаратура, яе залатое дваццатае стагоддзе.

Каб не пасварыцца, што даволі часта здараецца за кухонным сталом са шчодрай выпіўкай, мы ішлі ў залу з чорным раялем і прайгравальнікам, дзе слухалі кружэлку Міхася Забэйды-Суміцкага. Разы са тры мы праслухалі «Шумныя бярозы», а потым вярнуліся на кухню і самі, ужо без Забэйды, спявалі:

*Шумныя бярозы пабяліў мароз,*
*Хацеў бы я плакаці, ды не маю слёз…*
*Хацеў бы я пеці аб сваёй бядзе,*
*Дый на сэрцы ные, песенька не йдзе…*
*Хацеў бы, каб воля гуляла са мною,*
*Каб сонейка грэла, як грэе вясною…*

Ад застолляў з Міхаілам Казінцом найлепш помняцца тыя песенныя пабеленыя марозам бярозы. Пра іх мы з ім і ўспаміналі пазней, калі выпадкова сустракаліся ў нашым доўгазімовым Мінску.

### Місевіч і партвейн

Заўсёды думаў, што паспяховыя і знакамітыя людзі п'юць дарагі алкаголь. Сапраўды… Нашто піць капеечнае вінцо, калі можаш купіць бутэльку дарагога каньяку ці гарэлкі? Тым больш, што мае знаёмыя заможныя пісьменнікі так і рабілі. Калі ты бедны, калі ў тваёй кішэні ледзь хапае дробязі на адну бутэльку, тады і выйсця няма: купляеш мацаванае ці які сухач і п'еш яго з рыльца.

Можна ўявіць маё здзіўленне, калі ў рэдакцыю газеты «Знамя юности» зайшоў знакаміты музыка з «Песняроў» Улад Місевіч і паставіў на стол дзве бутэлькі з танным партвейнам. Мы працавалі над планам будучага часопіса «Крыніца» і ўзрадаваліся прыходу яшчэ аднаго памагатага. Выпіўшы паўшклянкі смачнага, як тады падавалася, партвейну, я не пасароме́ўся і папытаўся ў «песняра», чаму той купляе танны алкаголь. Улад спаслаўся на звычку, маўляў, пакуль быў бедным і малавядомым, прывык да таннага віна, ведае сваю дозу, а, стаўшы знакамітым, не хоча мяняць завядзёнкі. Дарэчы, Місевіч, якога сябры клікалі Змей, бо разважлівы і мудры, сказаў тады, што багатым чалавекам ён так і не стаў. Слава і багацце не заўсёды сябруюць. Мудраму Змею я паверыў, але як толькі пачаў добра зарабляць, дык адразу перайшоў з таннага алкаголю на дарагі і з танных папярос — на якасныя цыгарэты.

### Дудараў і паркет

Чалавек пайшоў назаўжды, і ты пачынаеш згадваць ягонае жыццё, бярэшся ўспамінаць вашыя сустрэчы і гутаркі. Стараешся ўзгадаць нешта важнае, яркае і каштоўнае, а згадваецца побыт. Так у мяне адбылося і з драматургам Дударавым.

Патэлефанавала мая жонка, калі я сядзеў і чакаў стаматолага, сказала, што памёр наш сусед — Лёша Дудараў. Мне згадалася гісторыя пра дубовы паркет… Я сядзеў у сваім кабінеце, у часопісе «Крыніца», а побач з маім сталом сядзеў у крэсле паэт Анатоль Сыс. У кабінет зайшоў рэдактар Някляеў: «Хлопцы, Лёша Дудараў просіць дапамагчы. Ён купіў машыну дубовага паркету, той паркет згрузілі ў сутарэнні, а цяперака трэба той паркет перанесці з сутарэнняў у кватэру…». Сутарэнні ў доме Дударава глыбокія — праўдзівае бомбасховішча. Кватэра ў яго ажно на чацвёртым паверсе. Цэлую машыну дубовых паркетных дошачак я з Сысам падняў на паверх. Насілі мы паркет у валізах. Мы насілі, а Лёша Дудараў складаў-парадкаваў яго ў вялікім пакоі.

Стаміліся ўсе страшэнна. Дудараў прапанаваў: «Пасля цяжкай працы трэба добра выпіць!». Пілі, як сказаў Сыс, па-багатаму: каньяк з лімончыкам і мяснымі закускамі. Перад першай чаркаю я патэлефанаваў жонцы і папрасіў, каб яна прыйшла і забрала мяне з кватэры драматурга Дударава. Той вечар мне помніцца смехам, усе шмат жартавалі і шмат гучна смяяліся. Як мы смяяліся з жартаў Дударава, я помню, а вось як дайшоў дамоў — ужо згадаць не магу. Зрэшты, цяпер гэта і не важна ў такой кароткай гісторыі пра дубовы паркет.

### Карпейчык і гарэлка

«Ты ж не станеш выпіваць абы з кім?» — пытаўся ў мяне школьны настаўнік біялогіі Саша Карпейчык. «Так! Я не стану абы з кім піць гарэлку, бо гэта ж небяспечна…» — як можна больш пераканаўча ілгаў я Карпейчыку. Ілгаў, бо шмат разоў піў абы з кім і абы-дзе. Піў у прывакзальных буфетах з суседзямі па століку, у выпадковых барах з барменкамі, у чужых пад'ездах і двarах з хіпі, у тэатральных буфетах з маладнаёмымі акторкамі і на дахах высокіх дамоў — з каханкамі, з рабочымі ў касцёльным двары… Піў і радаваўся, а Карпейчыку хлусіў, бо той лічыў, што выпіваць можна толькі з людзьмі прыстойнымі і добра знаёмымі, але гэткае перакананне яго не выратавала — спаліў сябе алкаголем, бо вакол яго было зашмат людзей, якіх ён лічыў не абы-кім. Сярод тых — не абы-хто — у Сашы Карпейчыка быў і я, і мы з ім выпілі мора самых розных напояў. Пілі вермут на Вайсковых могілках, каньяк у Палацы рэспублікі, гарэлку ў бары «Акварыум», настойку горкую «Белавежскую» ў гасцініцы «Кастрычніцкая»…

Пра такіх, як мы, можна сказаць: пілі ўсё, што гарыць. Потым я кінуў піць горкую, а Саша застаўся з бутэлькай, працягваў штовечар напівацца і згас… Шкада, бо выпіўкі з настаўнікам біялогі і бясконцыя размовы з ім пра кнігі — важныя фрагменты майго небагатага на прыгоды жыцця. Толькі ў Сашы Карпейчыка я мог спытаць: «Нашто Хрыстос выпіваў з Юдам Іскарыётам?». Мог спытаць і атрымаць адказ, што без Юды Іскарыёта сцэнапіс Леанарда да Вінчы «Таемная вячэра» будзе не такім дасканалым.

### Забужка, Цыбулька і падводная лодка

У Мінску, на вуліцы Энгельса некалі стаяла гасцініца «Кастрычніцкая». Мне гасцініца не падабалася, бо мне падабаўся дамок, які раней стаяў на тым месцы, дзе пазней збудавалі «Кастрычніцкую». У невялічкім дамку, складзеным з дымна-чырвонай цэглы, працавала мастацкая школа. У той школе займаліся мае сябркі. Я хадзіў да іх у госці, каб паглядзець на рэпрадукцыі карцін Эль Грэка. Рэпрадукцыі прывезла з Парыжа і падаравала школе мастачка Надзя Лежэ.

Школа пераехала, дамок пабурылі, рэпрадукцыі немаведама дзе падзеліся. Але ўспамін пра школу застаўся цёплы.

Пра гасцініцу, якую таксама знеслі, каб пабудаваць «Прэзідэнт-Гатэль», успаміны не такія светлыя, бо я туды заходзіў, каб выпіць у рэстарацыі. Звычайна я піў за заробленае, але аднаго разу выпіў і за чужы кошт. Мяне запрасілі на банкет, які ладзілі ў гонар пісьменніцы Аксаны Забужка і паэта Володымыра Цыбулькі. Я піў гарэлку, закусваў заліўным языком і казаў, што ў Аксаны цудоўная сакавіта-чырвоная сукенка. На нешта большае ў кампліментах мяне тады не хапала, бо мэта была іншая ды простая — напіцца. У той час я ўжо выпіваў так, каб напівацца, і мяне мала што хвалявала, акрамя гарэлкі. Праўда, на тым банкеце парадаваў Цыбулька, я нават запомніў два радкі з ягонага верша:

*— Куды ты дзенешся з падводнай лодкі?*
*— Сыду ў сябе…*

Геніяльная формула паводзінаў, як на мой розум. Так што можна сказаць, што і пра гасцініцу «Кастрычніцкая» ў мяне ёсць някепскі ўспамін пра сукенку і верш.

### Сыс і бутэлечка

З паэтам Анатолем Сысам я выпіў так многа, што нават цяжка ўзгадаць нешта адметнае ў нашых п'янках. Яны якраз прыпалі на часы, калі дзяржава пачала змаганне з алкагалізмам. Таму гарэлкі было не дакупіцца, адпаведна, усе выпівохі былі занятыя гэтым самым дакупляннем. Мы з Сысам стаялі ў чэргах, настаяўшыся, улазілі без чаргі, бралі як мага больш, каб зрабіць запас, ды ўвесь запас выпівалі ў першы ж вечар. Калі нам не хапала вечара, пілі ўсю ноч навылёт. Мы выпівалі ўсё, што было, і тады ў змрочнай передзолкавай цішыні гучала сысаўскае сакраментальнае: «А ў мяне ў хаце яшчэ ёсць бутэлечка!».

Мы валакліся да Сыса ў інтэрнат, і ён даставаў з хованкі найвялікшую каштоўнасць — паўлітровую пляшку таннай гарэлкі. Сыс адкаркоўваў пляшку, наліваў чарку, і тут у мяне спрацоўваў інстынкт самазахавання: «Я ўсё! Больш не магу. З мяне хопіць…» — «Мне што, аднаму цяпер піць? Добра, я вып'ю адзін, а ты пасядзіш са мной, проста пасядзіш…». Пасля трэцяй чаркі Сыса пачынала хіліць у сон, і я сыходзіў у свежую і цвярозую раніцу…

Больш як трыццаць гадоў працякло з тых гарэлачных часоў, а я добра бачу, як ласкава ўсміхаецца Анатоль і кажа мне, што ў ягонай хованцы ёсць бутэлечка.



Фота pxhere.com

# На беразе часу



Людміла ПАЎЛІКАВА

***

*Бераг. Строма. Промняў біццё.*
*Сэрца ўдары і ўдары слова...*
*Узыходзіць на асенні касцёр*
*неба сонцагалова.*

*Позіркам, як выцяў, працяў...*
*Вецер — нібы ў твар*
*конскай грывай...*
*Скачам стромы танец жыцця*
*над абрывам...*

***

***D. I.***

*Хіба можна — святлом да болю?!*
*...Вочы шалыя... Кроў шумлівая...*
*Змею! Вусны твае куслівыя...*
*Адпускаю душу на волю.*

*Хіба ветру схавацца ў полі?!*
*...Вочы шалыя... Вёсны вешчыя...*
*Адпускаю душу на волю,*
*Нібы птушку на Дабравешчанне...*

***

*Зямнога часу не замнога.*
*Што ж сілу траціць на жаханні*
*ды ў гэту цемру клікаць Бога,*
*які — у славе ды ў каханні...*

### Вечарніца

*1*
*Гарыць прастора.*
*Хмары, што дымы*
*над вогнішчам зямнога дня,*
*і мы*
*свой чалавечы дзень*
*кладзем на шалі*
*святла жывога*
*і жывое цьмы...*

*2*
*Знікаюць рэкі, царствы і народы,*
*старэюць фарбы, душы і дамы...*
*Услед за сонцам дні ідуць і моды —*
*за небакрай зыходзяць, як і мы.*

*3*
*Павеяла — забытым і нязбытным:*
*самотны вецер з захаду прынёс*
*абрыўкі слоў вячэрняе малітвы*
*і водар росных ладанаў нябёс...*

***

*Лыжна. Снежна. Бязгрэшна.*
*І чамусьці смешна...*
*...Мне з табой...*

### Максімава крыніца

***Ірыне Перасецкай-Малаковіч***

*Там, дзе б'е Максімава крыніца —*
*лёс у лёс — што выстралам ва ўпор! —*
*стрэнуўся з лясною галубіцай*
*ветраны ад веку касагор.*

*На касым плячы не прытуліцца,*
*вецер, дождж — і тыя ўсе бягом.*
*Білася лясная галубіца*
*за душу ўтравелую яго.*

*Каб алень трубіў тут не аднойчы,*
*каб гудзеў наўкола стромы бор...*
*Аж да вечарніцы, самай ночы*
*слухаў галубіцу касагор.*

*Смягнучай душы не наталіцца —*
*вышні суд і вышні прыгавор...*
*Там, дзе б'е Максімава крыніца,*
*раз у год злятае галубіца,*
*раз у год спявае галубіца,*
*слухае ўтрапёна касагор...*

***

*Летніх ліўняў хэві-рок спачыў.*
*Вадасцёк — напаўпусты.*
*Мне здаецца, што ад роспачы*
*дрэвы скідваюць лісты.*

### Гервяты. Касцёл святой Тройцы

*Ніхто ні гаспадар тут*
*і ні госць...*
*Быў свет, як ёсць —*
*адной суцэльнай сцэнай.*

*Мой дух гарэў.*
*І парк гарэў.*
*І сцены...*

### Ялізава

*Там цячэ бярозава і юна*
*скрозь вякі праменная рака,*
*сноў маіх сярэбраныя струны*
*кратае дзіцячая рука...*

### На беразе часу

*Там хмызняком пабраліся лугі.*
*І ўсё ж... збірае прошлае даніну.*
*Пара прызнаць: і ў сэрца ёсць даўгі —*
*за крыўды запаволеную міну,*
*за слепату дзіцячае тугі...*
*Сягонняшняга часу берагі,*
*як хвалі, размываюць успаміны,*
*зрываюць з вуснаў: «Госпадзі, памілуй!» —*
*там, дзе табе я прашаптала: «Мілы...».*

### Акно ў нікуды

*Вось і другая пайшла вясна,*
*ці тое, што мы вясною завём.*
*Можна проста няўдала зірнуць з акна*
*і праваліцца ў сэрца сваё.*

*Там — донца сонца.*
*Там доля — у дым.*
*Пяшчоты — парахавая бочка.*
*...Мне б вочкам на цябе —*
*хоць адным,*
*хоць саменькім краем вочка!*

### Белы змей

*Змей голаў з кольцаў сваіх дастае,*
*сціскае ў абдымках дужых...*
*...Белыя ружы на маім стале*
*цалую крадком ад мужа...*

***

*На кліч крыві і ў глыбіні дум —*
*Па ўдарах сэрца майго іду...*

***

*Воды —*
*па полі снежным,*
*верыцца —*
*у бязмежнае,*
*верыцца —*
*у бязгрэшнае,*
*верыцца —*
*нават табе...*

***

*Звялі дарогі дзвюх жанчын,*
*двух даўніх вояў,*
*два позіркі, як два мячы...*
*...Ты — поле бою...*

# Сярод знявер'я і нягод



Анатоль ДЭБІШ

### Чаканне

*Не гледзячы на беды ўсе і страты,*
*Чакаю я, як весніх дзён пчала,*
*Калі душа пакіне цела краты*
*І вымкнецца на волю — да святла.*

*Як нараджэння час — маё чаканне,*
*Што дзіўным выпраменьвае святлом.*
*Як першы крык дзіцяці, як каханне,*
*Як бліск маланкі за начным акном.*

***

*Шлях па жыцці здаецца мне*
*вядомым.*
*Гляджу наперад, а душа сляпая*
*Не бачыць броду —*
*выпырхнула з дому*
*І не туды, дзе сад цвіце, ступае.*

*Лёс б'е маланкай, глушыць*
*гнеўным громам.*
*Туман наўкол —*
*куды я заблукаю?*
*Душа сляпая выпырхнула з дому,*
*Па зарасцях някошаных блукае.*

***

*Утульней бывае*
*на камені спаць,*
*Чым песціцца*
*ў мяккай пасцелі.*
*Дзе здрада хіжуе*
*і дні патускнелі,*
*Утульней бывае*
*на камені спаць.*

*Ён твой абаронца:*
*не можа прадаць.*
*Не рудніць цябе*
*і не беліць.*
*Утульней бывае*
*на камені спаць,*
*Чым песціцца*
*ў мяккай пасцелі.*

***

*Калі няма ўжо ў целе Духу —*
*І чалавека больш няма.*
*Жывеш на свеце, як слімак,*
*Калі няма ўжо ў целе Духу.*

*Перамагчы адчай і скруху*
*Мы ўсе стараемся дарма:*
*Калі няма ўжо ў целе Духу —*
*І чалавека больш няма.*

***

*Прашумела навальніца*
*Ў сенакосах сакаўных.*
*Гром, нібыта дух званіцы,*
*Ціш агучыў — і заціх.*

*Набрынялі сонцам зёлкі*
*Ля мастоў і ля дарог.*
*Каляроваю вясёлкай*
*Усміхнуўся з неба Бог.*

***

*Як змей, які сваю*
*скідае скуру, —*
*З сябе скідаю*
*тлумнасць дзён былых:*
*Хаця б на год,*
*на месяц ці на міг*
*З сябе скідаю*
*тлумнасці я скуру.*

*Будую новы храм —*
*каб стаў ён мурам —*
*Са спадчыны дзядоў*
*і мудрых кніг.*
*Як змей, які сваю*
*скідае скуру,*
*З сябе здзіраю*
*шэрасць дзён былых.*

### Забыццё

*Ноч прамінула.*
*У твой пакой*
*Я ўвайшоў —*
*на другую планету.*
*Ты прыход не заўважыла*
*мой, —*
*Перад люстрам*
*стаяла раздзетай.*

*Валасоў віўся*
*змроены дым.*
*Ну а грудзі —*
*два сонцы гарачыя.*
*Любавалася целам сваім,*
*На мяне не зважала,*
*не бачыла.*

*Аздабляў сцярадаўні багет*
*Твой партрэт з дзён мінулых*
*і гожых.*
*Прэч пайшоў...*
*неба хмарысты квет*
*Асцярожна паклаўшы на ложак.*

***

*Маланка явар працялá,*
*Дыміцца ствол яшчэ жывы.*
*Не рухне ён сярод травы...*
*І ты маланкаю была.*

*О, колькі раз агню стралой*
*Ты сэрца працінала мне:*
*Ды не знямогся я, о не! —*
*Нясхібна крочыў за табой.*

*Сярод знявер'я і нягод*
*Няхай чупурацца віжы*
*І б'юць маланкі: не пражыць*
*Ні дня адно без аднаго.*

### Не дай

*Не дай мне, Божа, адзіноты*
*Без хвалявання і турбот,*
*Вялікі гмах*
*з цагляным плотам,*
*Мяжу, дзе церні і асот.*

*Не дай спакойнага кахання,*
*Дзе сэрца болем не пячэ...*
*Рачная плынь*
*смуродная стане,*
*Як не бруіцца, не цячэ.*

*Не дай мне, Бог,*
*жыцця такога,*
*Якім не кожны звер жыве:*
*Жыць і наўкол*
*не бачыць Бога*
*У кожным дрэве і траве.*

# Ад цемры да святла

## Арабеска з рамана-пропаведзі «Пакаранне»



Анатоль БРУСЕВІЧ

Сонца падымалася ўсё вышэй, распырскваючы вакол сябе гарэзлівыя промні. Вёрткімі зайчыкамі і вавёркамі яны скакалі па бляшаных дахах і падаконнях, падалі на брукаванку — проста пад ногі Апошняму паэту, — і тут жа разбягаліся ва ўсе бакі, як быццам бы баяліся старой каменнай студні, што стаяла пасярод пляца.

«Калі ўжо не ўдалося напіцца вады, то і рабіць няма тут чаго, каля гэтай студні, у якую нават сонца зазіраць не хоча», — вырашыў Апошні паэт і накіраваўся прэч па адной з гарадскіх вулак. Бяссонная ноч усё ж давала пра сябе знаць: не моцным, але назойлівым, як той камар, болем яна адгукалася ў скронях, паступова сціскаючы іх нябачнымі абцугамі. Ногі з кожным крокам рабіліся цяжэйшымі. «Хоча таго чалавек ці не, але адказваць за свае ўчынкі ён павінен. І не толькі паводле законаў Бога, але і паводле капрызаў цела, — падумаў Апошні паэт, — адзіная сфера, дзе гэтыя законы не дзейнічаюць — сфера мастацтва. Зрэшты, мастацтва таксама мае свае законы. Галоўны з іх — закон гармоніі. Пераадольваючы перашкоды, створаныя Богам і целам, паэт рухаецца ад цемры да святла і ў адваротны бок — ад святла ў цемру. Цяжка паэту, але ў імя Дэкадансу паэт пераадолее многае. Галоўная ж перашкода — сам паэт. Будзь жа міласцівым і літасцівым да сябе, паэце, калі выклічаш на дуэль сваё змрочнае я!»

— Дык ці бачыў ты аблічча Таго, пра каго гаворыш увесь час? Які ён, Дэкаданс? — пачуўся раптам аднекуль зверху звонкі, быццам срэбны званочак, голас.

Апошні паэт прыпыніўся, узняў галаў і заўважыў тую, каму належала пытанне. Гэта была малая дзяўчынка. З выгляду мела гадоў пяць-шэсць. Па ўскудлачанай залацістай галоўцы было відаць: яна толькі што прачнулася і адразу ж адчыніла акно свайго пакоя, каб прывітаць сонечных зайчыкаў і вавёрак. А тут пад акном ён, дарослы чалавек з незразумелымі нават для іншых дарослых людзей думкамі, якія так і стараюцца вырвацца на волю, увабраўшыся ў шаты словаў і даспехі голаса.

— Дык ці бачыў ты Яго аблічча? — паўтарыла дзяўчынка. — І не думай, што я не зразумею цябе. — Яе ружовы спрасонку тварык зрабіўся раптам не па-дзіцячы сур'ёзным. — Я нават ведаю, як выглядае Смерць, таму зразумею ўсё, што ты скажаш мне. І не спрабуй хавацца за маскай даросласці, як гэта робяць усе вакол. Ты ж пэўна ведаеш, хто мáе права нацягваць маску і навошта Ён гэта робіць?

— Дэкаданс мае жывое аблічча, хоць многія думаюць інакш. А вось Смерць, пра якую ты згадала, — усяго толькі адна з масак, што прымярае часам бацька ўсіх паэтаў і прарокаў, — загаварыў да дзяўчынкі Апошні паэт, здзіўлены і нават крыху збянтэжаны нечаканасцю размовы і такім юным векам суразмоўцы, — а каб адрозніць маску ад жывога твара, трэба чытаць кнігу, якую напісалі нябёсы. Праўда заўжды на паверхні. Хлусня — глыбока на дне. Дэкаданс падае знакі. Яны стаіліся ў першай белі снегу і апошняй чырвані апалай лістоты. Не забывай, што таму, хто не верыць у знакі, прыгатаваны цяжкія пакуты, бо Дэкаданс — магутны, здольны на адплату. Ніхто не схаваецца ад Яго ні на зямлі, ні на нябёсах. Ён — Той, хто надае думкам форму, а целу — цэнь, калі пажадае. Яшчэ да таго, як думкі апрануцца ў словы, Дэкаданс удыхне ў іх дух свабоды. Але і свабода бывае рознай. Ёсць свабода, якую славіць розум. Ёсць свабода, якую розум праклінае, бо не можа вытлумачыць. Не варта тлумачыць свабоду. Трэба верыць у яе. І тады вачам адкрыецца шлях, просты, як песня даждку.

— А я ведаю цябе, — выгукнула дзяўчынка, — ты — Апошні паэт! — І ў яе вялікіх смарагдавых вачах раптам успыхнулі вясёлыя агеньчыкі. Яна радасна засмяялася, так, быццам убачыла перад сабой вялізны святочны торт альбо пухнатае кацяня. На тварыку, што яшчэ імгненне таму назад выпраменьваў недзіцячую сур'ёзнасць, адбілася тая анёльская наіўнасць, перад якой нават самыя суровыя ваяры робяцца слабымі і бездапаможнымі. — Мама, мамачка! Хадзі хутчэй сюды! Паглядзі, хто ў нас пад акном! — паклікала ўладальніца смарагдавага позірку і срэбранага голаса, на які адазваўся мяккі, крыху салодкі і такі знаёмы да болю іншы голас — жаночы (Апошні паэт яшчэ раней чуў яго, але калі гэта было і дзе, не мог ніяк згадаць).

«Дачушка, зачыні, калі ласка, акно, а то скразняк зараз наробіць нам шкоды — перакуліць што-небудзь. І не трэба замінаць людзям, бянтэжыць рознымі пытаннямі. Хадзі снедаць!»

Дзяўчынка смешна надзьмула вусны, так, як гэта ўмеюць рабіць толькі малыя дзяўчынкі, і яе светлая галоўка схавалася ў пакоі. Потым дзяўчынка зноў выглянула, усміхнулася і памахала Апошняму паэту сваёй белай, як у фарфоравай лялькі, ручкай. Акно зачынілася.

Затое іншыя вокны ў доме, а таксама ў суседніх дамах пачалі расчыняцца, і адтуль павысоўваліся цікаўныя гаспадыні камяніц — маладыя дзяўчаты з юрлівымі позіркамі, жанчыны сярэдняга веку, з загадкавымі, крыху стомленымі вачыма, а таксама старыя кабеты, у чыіх зрэнках жыў такі самы юр, што і ў паглядах юных гараджанак. Апошні паэт спачатку разгубіўся ад такой колькасці жаночых позіркаў, што знянацку абрынуліся на яго з усіх бакоў, але тут жа ўзяў сябе ў рукі, бо не да твару мужчыне, тым больш паэту, дэманстраваць чужаніцам выпадковую слабасць. Ён ветліва ўсміхнуўся ўсім (і нікому) і ўжо сабраўся працягваць перарваны шлях (хоць стома не пакідала яго, і разумней за ўсё было б прысесці вунь пад тым, напрыклад, разгалістым клёнам, на згрэбную каваную лавачку, якая быццам запрашала адпачыць здарожанага вандроўцу), як заўважыў шыльду. На светлай дошчачцы, што вісела на рагу аднаго з будынкаў, чорнай, але ўжо добра выцвілай фарбай было напісана: «Вуліца паэтаў».

«Ногі самі прывялі мяне туды, куды я і мусіў нарэшце прыйсці! — радасна ўсклікнуў у думках Апошні паэт, — цяпер я змагу падзяліцца Словам з тымі, хто сапраўды варты Слова. Нарэшце я збяру вакол сябе братоў сваіх і прамоўлю тое, што казаў Вялікі Дэкаданс! І яны паверацъ мне, бо гэта буду казаць я — Апошні паэт! І скажу ім: браты мае, гэта я збяру вас у апошні дзень, калі вашы вершы стануць мёртвымі, бо над імі ніхто не заплача. І я ажыўлю іх, калі вы паверыце ў моц і праўду слова майго, што падарыў мне Дэкаданс. Я не парушу абяцання, бо Дэкаданс не парушае абяцанні. Калі ж не паверыце, знікнуць усе вашы багацці, а дзеці вашы будуць сіротамі пры жывых бацьках. І будуць дровамі для Агню. Але вы можаце зрабіць так, каб яны былі вечнымі дрэвамі. Гісторыя ведае такія выпадкі. Мудрыя кнігі, напісаныя небам і пяском, сведчаць гэтую праўду. Згадайце, як паводзілі сябе дзеці сонца і тыя, якія жылі да іх. Яны лічылі хлуснёй знакі Праўды і былі сурова пакараныя. Знакам для вас стануць два войскі, якія выйдуць насустрач адно другому. Першае войска — вашы цялесныя задавальненні, якія вы атрымліваеце ад сваіх жанчын, ад смачнай ежы і пітва, ад сузірання бляску каштоўных камянёў і металаў. Другое войска — духоўныя радасці: радасць ад малітвы, радасць ад прыгожай мелодыі, радасць ад паэзіі. Хто мае вочы, той убачыць, што першае войска значна пераўзыходзіць другое. Але Дэкаданс дорыць іншы зрок, які кажа: «Пераможа войска, што выглядае слабым». І так сапраўды станецца. Бо духоўныя радасці — ваяры, якія не баяцца ні жыцця, ні смерці. Цялесныя ж задавальненні баяцца ўсяго, нават уласнага ценю. Зрэшты, яны не ваяры, а ўсяго толькі вялізны натоўп рабоў. Рабы не здольныя да вайны. Але каб убачыць знак, пра які я вам расказаў, трэба быць цярплівым, праўдзівым, пакорлівым паэтам, трэба складаць ахвяры ўласным думкам і прасіць у іх прабачэнне за немагчымасць своечасова апрануць слова ў строі верша. Найлепшая ахвяра для думкі — сузіранне яе адлюстравання ў лязе ўласнай слязы. Дэкаданс засведчыў, што няма паэзіі, калі паэты любуюцца толькі ўласным адбіткам. Паэзія вакол нас, а ўнутры паэта — пустэльня, якую насяляюць чорныя анёлы марных ведаў. Толькі Дэкаданс падтрымлівае раўнавагу паміж чорным і белым, пазнаннем і цнотай, справядлівасцю і здрадай, магутнасцю і слабасцю, мудрасцю і наіўнасцю. Калі нехта захоча аспрэчыць словы Апошняга паэта, няхай спачатку задумаецца над словамі, якія Пакора высекла на каменных таблах старадаўніх боствáў. Вось гэтыя словы: «Паэт падпарадкаваў усю сваю сутнасць нябёсам і разам з прарокамі рушыў услед за маланкай. Шлях падаваўся бясконцым, таму многія прарокі трацілі зрок і губляліся ў цемры розных спакус. Так прарокі зрабіліся рабамі матэрыяльнага свету. За бляск срэбра і золата яны пачалі нават забіваць адзін аднога. І калі на далягледзе заззяла сапраўдная мэта — палац, у якім Творца чакаў паэта і Сваіх прарокаў, стомленыя дарогай вандроўнікі вырашылі прыспешыць крок. Кожны з іх прагнуў першым дабегчы да палаца. Прарокі, якіх і так засталося вельмі мала, пачалі біцца, штурхацца, рваць адзежу адзін аднаму. Толькі паэт крочыў той самай спакойнай хадой і не звяртаў на валтузню прарокаў жаднай увагі. І толькі паэта прыняў Творца ў сваім палацы. Купка абадранцаў, якія некалі былі прарокамі, засталася за брамай». Тыя, якія не вераць у знакі, што пасылае Дэкаданс, яны забіваюць у сабе прарокаў, не маючы на гэта ніякага права. Яны забіваюць нават не сябе, а простых людзей, што з надзеяй чакаюць праўды. Пакарання вартыя такія прарокі. Іх пакараннем будзе пыл, які накрые ўсе іхнія справы ў гэтым свеце і ў Апошні дзень жыцця. І не будзе ў іх памагатых. Нават чорныя анёлы марных ведаў з агідай адвернуцца ад іх. Агонь прагліне іх пустыя душы. Яны больш не змогуць падаўжаць дзень за кошт ночы і ноч за кошт дня. Яны не ўбачаць, як Творца выводзіць жывое з мёртвага і мёртвае з жывога. Такім будзе Апошні дзень. У гэты дзень кожны паэт і кожны прарок убачыць усё дабро і зло, якое яны здзейснілі. І кожны з іх захоча, каб паміж ім і паміж яго злачынствамі легла велізарная прорва. Дэкаданс можа зрабіць гэтую адлегласць і далёкай, і блізкай. Таму Ён і перасцерагае вас ад саміх сябе. Адзінае, Дэкаданс не спачувае рабам. Запомніце гэта. Калі словы маé не ўпадуць на камяні думак, а засеюць раллю сэрцаў, вы пойдзеце следам за мной. І тады Дэкаданс умілуе вас і прабачыць вам вашы грахі, бо Дэкаданс — Той, Які прабачае. Бо Дэкаданс — адно з абліччаў Творцы. Скажыце самі сабе: «Падпарадкоўвайся таму, чыё імя Дэкаданс, як і Яго Пасланцу — Апошняму паэту!». Калі ж вашае Я не захоча вас чуць і слухаць, то гэта азначае адно: яно поўніцца змрокам, цемрай зор, якія згарэлі мільёны стагоддзяў назад. Дэкаданс не любіць няверных. Няверныя паэты забыліся, што свет сатканы з цудаў. Яны перасталі маліцца. Але ж толькі малітва ажыўляе слова, надае рух сонцу, фарбуе лістоту дрэва, а чалавека робіць падобным да Творцы. Маліцеся да Маці, бо яна перамагла Смерць. Маліцеся да Сястры, бо яна перамагла Спакусу. Маліцеся да Жонкі, бо яна не захацела перамогі. Маліцеся да Дачкі, бо яна — першае і апошняе ўвасабленне Перамогі. Маліцеся да ЖАНЧЫНЫ. Маліцеся да яе цноты і самаахвярнасці. Яна — ваша радзіма і воля, грэх і збаўленне. Яна — цэнтр сусвету. І тады яна таксама будзе маліцца за вас, верныя паэты! Гэта да жанчыны прылятаюць анёлы і кажуць: «Радуйся, ласкі поўная! Пан з табой!». Гэта жанчына размаўляе з людзьмі, калі тыя яшчэ ляжаць у калысцы! Слова — ад яе. Рух — ад яе. Моц — ад яе. Маўчанне і слабасць — падарунак няверным, плата за пагарду цудам і малітвай. Цяпер вы ведаеце праўду, аднак гэтага мала. Ведаць — гэта не значыць уратавацца. Многія ведаюць, што трэба рабіць, але не робяць. Вядома, сярод знаўцаў праўды ёсць тыя, хто спраўна вяртае даўгі, аднак шмат і тых, якія не збіраюцца нічога нікому вяртаць. Ёсць тыя, што кажуць: «Гэта вось праўда, а гэта — хлусня», хоць насамрэч перад імі толькі праўда, альбо толькі хлусня. Дэкаданс пакарае вас, інтэрпрэтатары чысціні і беззаганнасці, адвакаты мярзотных насельнікаў пякельнай даліны! Ніколі Творца не адкрые таямніцу мудрасці і любові людзям, якія прагнуць падзяліць неба на Бога і аблокі. Дэкаданс кажа нам: «Няма ў свеце жаднай іерархіі. Нельга ўзвысіцца над іншымі. Вышыня і глыбіня — пасткі, падрыхтаваныя для наіўных дурняў, якія ўсвядомілі сябе мудрацамі. Каб не патрапіць у пастку, трэба слухаць сэрца і размаўляць, пакідаючы словы на мяжы матэрыяльнага і нябачнага свету». Гэтак нараджаецца верш. Калі верш адыходзіць у цень Творцы, паэт здымае маску прарока і горка плача над зернем, кінутым у пясок уласных амбіцый...».

Віхор думак, які знянацку закруціўся, завярцеўся вакол Апошняга паэта і, здавалася, вось-вось адарве яго ад зямлі, каб панесці насустрач братам, засмяглым без гаючага, жывога Слова, раптам прыціх. На прыгожай, выкаванай рукой сапраўднага майстра лавачцы, на той самай, што хвіліну назад запрашала ў цень старога клёна, віднелася згорбленая чалавечая постаць, захутаная ў шырокі шэры плашч. З-пад вялікага капюшона, які закрываў амаль увесь твар (таму нельга было пазнаць, хто гэта — малады хлопец альбо дзяўчына), даносілісся горкія ўсхліпванні: чалавек у плашчы плакаў. Буйныя, як пацеркі, слёзы каціліся па шчоках, падалі на брук і нават не паспявалі адразу высыхаць, не зважаючы на ўвішнасць сонца. «І як я яго раней не заўважыў? — здзівіўся Апошні паэт, які вырашыў, што постаць, загорнутая ў плашч, належыць усё ж не дзяўчыне, а хлопцу, і, хутчэй за ўсё, такому ж, як і ён, вандроўнаму паэту, — невядома, праўда, што магло здарыцца, каб хлопец заліваўся такімі краплістымі слязьмі, але, так ці інакш, трэба супакоіць гаротніка».

Апошні паэт прысеў побач каля заплаканага вандроўніка і звярнуўся да яго з такімі словамі: «Не плач, паэце. Не плач, браце. Да мяне часам таксама прыходзіць Роспач. Калі Роспач прыходзіла ПЕРШЫ раз, яе каменны твар адначасна выпраменьваў і жорсткасць, і абыякавасць. Нават калі Роспач адышла, за вокнамі цэлы тыдзень стаяла глухая ноч. Толькі на сёмыя содні на правай сцяне майго Маўклівага Сусвету заззяла сонца ў постаці гіганцкай медузы. У той самы момант на супрацьлеглай левай сцяне перакрыжаваліся цені трох пытанняў, якія я мусіў неўзабаве задаць Маці, Сястры і Сябру. У Маці я спытаў, навошта нарадзіла мяне. У Сястры спытаў, ці можа быць маё каханкай. У Сябра спытаў, ці заменіць мне памерлага бацьку. Толькі Сябра адказаў правільна, бо шукаў замест сэнсу нонсэнс. Сонца высахла, Сусвет зноў агарнула ноч, а да мяне вярнулася Роспач з каменным, жорсткім і абыякавым тварам. Гэта быў яе ДРУГІ прыход.

Заканчэнне на стар. 7 »

# Ад цемры да святла

## Арабеска з рамана-прапаведзі «Пакаранне»

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 6



Фота pxhere.com

Другім разам Роспач паведаміла, што яе шлях пачынаўся з пустэльні. Мёртвы Акіян быў Амегай. З той пары, як Роспач пакінула за сабой першыя адбіткі слядоў, Сусвет змяніў сто адзінаццаць аблічаў, таму нельга было згадаць яго самую дасканалую маску. Толькі Нуль, які стаўся німбам і заззяў над галавой Роспачы мноствам варыяцый шэрасці, па-ранейшаму нагадваў пра існаванне Альфы.

ТРЭЦІ прыход Роспачы быў гэтакім жа нечаканым. Я пісаў верш, а можа, і ліст, і бачыў, як за чорнымі кратамі радкоў каналі Каханне і Вера. Надзея зрабілася вольным матыльком, і яго паклікаў Агонь. Я пісаў верш, не, хутчэй за ўсё ліст: «Каханая, мне было страшна, але я абняў цябе, і твой подых стаўся маім, страх развеяўся і знік, як знікае туман у промнях сонца». Тры рытуальныя колы, кожнае з якіх складзенае з пяці срэбнікаў і аднаго крыжыка, леглі на нашыя душы і думкі. Шэсць. Шэсць. Шэсць. Я пісаў ліст: «Любая, я піў нектар тваіх пацалункаў, не здольны спатоліць смагу. Я верыў, што гэтыя вусны належаць толькі мне». Калі гадзіннік прабіў свой апошні, дванаццаты раз, Роспач знікла, але з'явіўся Ён. Яго крылы былі цямнейшыя за неба, што агарнула мяне і жанчыну, якой я пісаў той ліст. Шлюбны вэлюм каханай афарбаваўся ў колер ночы. Я пісаў ліст: «Даруй мне, любая, я не змог падкупіць Юду». Ці дойдзе мой ліст на той свет? Ці прачытае словы мае Роспач мая? — думаў тады я.

З ЧАЦВЁРТЫМ прыходам Роспачы я ўбачыў, як да скалы прыкавалі карабель і скала пацягнула яго за сабой у нямое падарожжа па бяскрайніх прасторах цнатлівай рэчаіснасці. Сотні выспаў, якія сляпілі вочы празмернай дасканаласцю, трапляліся на іх шляху. Каля Выспы Паэтаў карабель патануў, а скала развалілася на тысячы дробных аскепкаў. Гэтую трагедыю на Выспе ніхто не заўважыў, бо кожны паэт быў заняты сваімі ўласнымі, вельмі важнымі справамі: нехта корпаўся ў вялізнай кучы смецця, шукаючы ці то філасофскі камень, ці то ўласны цень, які знік невядома куды; некалькі паэтаў, асядлаўшы іржавыя рыдлёўкі, гойсалі вакол сметніка, думаючы, што вось-вось адарвуцца ад зямлі і ўзнясуцца пад аблокі; іншыя, уздымаючы сцяну пылу, цягалі сухое ламачча і саджанцы, у якіх чамусьці адсутнічала карэнне — яны марылі пасадзіць сад, каб не бачыць смуроднай кучы. «Нешта па-за Выспай памерла», — ледзь чутна выгукнула адна паэтка, але яе словы напаткаў лёс карабля і скалы.

ПЯТЫ прыход Роспачы спадзьвіг мяне на вандроўку. І я пайшоў. Нават не пайшоў, а пабег, уцякаючы ад вачэй маёй Роспачы. Спачатку я крочыў мёртвай пустэльняй пачуццяў. Пад маімі нагамі спаў гарачы пясок натхнення, варушыліся чорныя камяні думак. Я ішоў басаном і нават не ведаў, ці скончыцца калі мой шлях. Толькі дзякуючы Роспачы я зразумеў, што на пачатку было не Слова. На пачатку было Маўчанне. Маўчанне сталася Небам і Богам. Я не адчуваў Маўчання, але ведаў, што яно — паўсюль. Яно і Сонца, якое рабіла невыносным мой шлях, і Месяц, што баяўся паказаць сапраўднае аблічча, і Зоркі, якія здзекліва смяяліся мне ў твар. Гэтак я крочыў, не пакідаючы ні цяню, ні слядоў. Мой зрок настолькі прызвычаіўся да колеру Маўчання, што я не заўважыў, як пустэльня змянілася стэпам, як стэп напоўніўся кветкамі, кустамі, дрэвамі і ўрэшце зрабіўся лесам. «Qvo vadis?» — запыталася Слова. «Vae victis!» — адказаў я, бо так навучыла мяне Роспач.

Калі Роспач з'явілася ў ШОСТЫ раз, яе вусны прамовілі наступнае: «Любоў, надзея, вера — тры дохлыя кіты, на якіх ужо нічога даўно не трымаецца. Паэзія, музыка, жывапіс… Каму яны патрэбныя? Прыгожыя абгорткі з-пад цукеркаў горкай рэчаіснасці збіраюць толькі дзеці і дзівакі. Свабода, роўнасць, братэрства. Яны выклікаюць плыткі смех і глыбокі сум. Падобны сум працінае наскрозь, калі прачынаешся сярод ночы і ўсведамляеш дзікую пустэчу, імя якой — Рэальнасць. Сяброўства. Рана ці позна і яно блякне, як блякнуць твары на старых фотаздымках. Каханне. Гэтая гнілушка свеціцца толькі ў цемры. Зямля развалілася на часткі, бо аблезлыя, сляпыя ліхтары задушылі яе сваімі магутнымі каранямі». Ад гэтых словаў Роспачы я неўзабаве прачнуўся і заўважыў, што сплю. У сне Роспач наведала мяне СЁМЫ раз. Яна хацела, каб я збудаваў храм, дзе змогуць маліцца ўладальнікі розуму. І я пачаў будаўніцтва. Аднак сон мой не быў вечным, таму кожнай раніцай праца перапынялася. А потым я ўвогуле страціў сон. На руінах спыненай будоўлі выраслі дрэвы. Праз цэлую вясну і ўсё лета маўклівыя іх постаці былі падобныя да прывідаў, якіх напалохаў першы промень сонца. Толькі глухой восенню, калі зніклі ўсе колеры і нават іх адценні, а хмары, глянуўшы ў люстэрка зямлі, не ўбачылі ні Зямлі, ні Неба, жыхары руін ажывіліся, зашапталі, заразмаўлялі, заенчылі на мове спыненай будоўлі. Разам з голымі, абшарпанымі дрэвамі крычалі зоркі і змрокам сваім асвятлялі шлях праклятых паэтаў і зрынутых анёлаў, якія пешшу вярталіся на радзіму, каб дапамагчы мне аднавіць аднойчы спыненую будоўлю.

Потым быў ВОСЬМЫ прыход Роспачы. Яна мне ўжо добра надакучыла і я асмеліўся заявіць, што веру ў сябе. «Веру ў сябе! — пачаў крычаць я, — веру ва ўсемагутнага творцу недасканалых сусветаў, які памёр і трапіў у чысцец — вар'ятню, дзе змрок праглынае і адрыгвае назад канапкі шпітальных ложкаў!» Роспач ледзь прыкметна ўсміхнулася, і перад маімі вачыма сталі праплываць думкі. Гэта быў жахлівы сурагат маіх уласных жаданняў і мрояў маёй Роспачы. Я бачыў ложкі. Я і цяпер бачу тыя ложкі. На гэтых ложках адпачываюць мае былыя, цяперашнія і будучыя жонкі і каханкі. Мяне кладуць побач з дзяўчынай, якая ніколі не жыла ні ў маім мінулым часе, ні ў маёй будучыні. Яна — мая Вечнасць, мая Абсалютная Ісціна. Я хачу яе, але ж ці можна кахацца з Вечнасцю, спаць з Абсалютнай Ісцінай? Можна! І вось з туга нацягнутай цецівы маёй жарсці зрываецца страла Амура, прабівае дзявочую плеўку, фарбуе чырванню белы сцяг прасціны, спусташае мяне да самага апошняга электрона, семем жывым напаўняе дрыжачую і шчаслівую жанчыну. Мы паміраем і трапляем за нашу пажадлівасць на трэці паверх пекла. Тут, на трэцім паверсе сабраўся самы квет грамадства: паэты, мастакі, музыканты, філосафы. Усе яны ветліва ўсміхаюцца, запрашаюць у кампанію, але крый Божа, адвярнуцца ад іх хоць на адну тысячную долю секунды і заплюшчыць вочы, як тысячы іх рук увап'юцца ў тваё духоўнае цела (бо іншага на гэтым свеце няма), разарвуць яго, расцягнуць на тысячы кавалкаў, і нядаўна мілыя творцы будуць раз'юшана смактаць, піць нагбом ультра-фіялетавую кроў. Я і мая каханая заплюшчваем вочы, адварочваемся ад знямелых, здзіўленых ценяў і, абняўшыся, зліваемся ў доўгім-доўгім пацалунку. Нарэшце, расшарпаныя на тысячы кавалкаў, мы трапляем на самае дно пекла, дзе д'яблы нанова лепяць нас па вобразу і падабенству свайму. Атрымаўшы новыя целы, на старым, іржавым ліфце, які гойдаецца ў розныя бакі і ў кожнае імгненне гатовы абарвацца, мы падымаемся на дзясяты паверх неба. Потым папяровымі сходамі крочым на воблакі, з якіх анёлы сінімі вуснамі прамаўляюць да людзей словы любові. Толькі людзі нічога не чуюць — усё заглушае музыка смерці і рыпенне ліфта, які ад'язджае назад у пекла. Каля Самага Галоўнага Анёла, які маўчаў, бо разумеў, што маўчанне — золата, стаяла вялікая срэбная міса, поўная манет усіх існуючых і неіснуючых дзяржаў. Сінімі вуснамі Самы Галоўны Анёл просіць нас выцягнуць наўгад па манеце. Я выцягваю дукат з пацямнелай выявай даўно памерлай каралевы, а каханка мая — бліскучую манету неіснуючай дзяржавы. «Я не кахаю больш цябе, ды і ніколі не кахала», — кажа неўзабаве мая спадарожніца. «Каго ж ты кахала?», — пытаюся. «Яго!», — і дзяўчына паказвае залатую выяву невядомага мужчыны на манеце. Раптам уверсе з'яўляецца трохкутнік, які на вачах ператвараецца ў вялізную піраміду. Піраміда з неверагоднай хуткасцю мяняе колеры — мільёны колераў за адну мільённую долю секунды — а потым, прыняўшы воблік гіганцкай похвы, усмоктвае нас па чарзе. Я нараджаюся і больш не веру ў сябе. Затое знікае Роспач. Так, яна знікла. Праўда, не назаўсёды. Яна яшчэ не раз вярталася, але я рабіў выгляд, што не заўважаю Роспач. Яна і цяпер, Роспач мая, побач. Але мой позірк, мае думкі, маё сэрца скіраваны ў іншы бок — светлы змрок, адкуль выйшлі Жыццё і Смерць. Так, яны тут. Глядзі, паэце, глядзі, браце!»

Увесь гэты час, пакуль Апошні паэт прамаўляў словы спагады, адрасаваныя гаротніку, захутанаму ў шырокі дарожны плашч, з-пад капюшона незнаёмца не пераставалі скочвацца светлыя гарошыны слёз, аднак усхліпваць ён перастаў — моўчкі слухаў свайго выпадковага (ці невыпадковага?) суцяшальніка. На апошнім слове вандроўнік перастаў плакаць і адным рэзкім рухам адкінуў назад свой капюшон. Тое, што ўбачыў праз імгненне Апошні паэт, не тое, каб напалохала яго (ён даўно перастаў баяцца таго, ад чаго адварочваўся розум, ведаючы: выклікаць пачуццё жаху мусіць толькі тое, ад чаго адварочваецца сэрца). Хутчэй здзівіла: проста ў твар пазіраў ён сам — але малады, у тым веку, калі яшчэ пачыналася яго доўгая вандроўка.

— Дзякуй табе, добры дружа, за словы спагады, — прамовіў юнак, — дзіўна, але мне здаецца, што мы знаёмыя, што недзе сустракаліся, хоць і ведаю, што гэта не так…

— Паміж пачуццём і розумам, як паміж Жыццём і Смерцю, пралягае глыбокая цясніна, — мовіў у адказ Апошні паэт, — пераадолець якую можна рознымі шляхамі. Анёлы і паэты, акрыленыя любоўю, пераадольваюць яе паветраным шляхам. Філосафы і прарокі, закутыя ў ярмо самападману і самалюбавання, спрабуюць са сваіх ланцугоў збудаваць мост. Марная, вядома, іх справа. Большасць жа спускаецца на дно цясніны, а затым спрабуе ўскараскацца наверх па вострых скалах. Іх справа таксама з большага марная. Але раскажы лепей, добры дружа, што сталася прычынай твайго гора?

Малады паэт (а гэта, несумненна, быў паэт) перастаў плакаць. Апошняя сляза выкацілася з правага вока, але тут жа высахла ад пацалунку аднаго з сонечных зайчыкаў: тыя не пераставалі гойсаць па дахах камяніц, шыбах і гладкай, як люстэрка, брукаванцы. Ён уважліва паглядзеў у вочы Апошняму паэту (ад такога пільнага позірку таму зрабілася зноў неяк не па сабе) і пачаў свой аповед.

— Ведаеш, — голас юнака зрабіўся раптам неверагодна спакойным, хоць яшчэ імгненне таму дрыжэў, быццам апошні восеньскі лісток, працяты паўночным ветрам, — ніколі не трэба роўна дзяліць віно і хлеб паміж Жыццём і Смерцю. Няхай болей п'янее Жыццё. Затое цверазейшай будзе выглядаць Смерць. Я так і зрабіў. І вось Жыццё маё па́дае пад стол, засынае мёртвым сном. Хлеб выпадае з непрытомных рук і коціцца чэрствай поўняй за небасхіл другасных каштоўнасцяў. Смяецца Смерць, моцна сціскае хлеб-сонца, кліча на пачастунак шэрых, пустых людзей. Ідуць галодныя, кормяцца маім хлебам з рук Смерці. А я не ведаю, што рабіць: будзіць п'янае Жыццё ці сачыць за змрочным балем, танным бляскам цёмных зорак, якія крывымі промнямі асвятляюць гэтую незразумелую гульню. Заплюшчваю вочы і бачу вёску — забыты адбітак чорнага квадрата. Пытанні тонуць, калі хочацца змірыцца з тым, з чым нельга пагаджацца. Тонуць пытанні ўнутры саміх сябе. Ніхто не заплача над мёртвымі пытаннямі. Толькі восень. Толькі Жыццё, калі прачнецца. Толькі дом, празрысты і светлы, сатканы з дзіцячых успамінаў. Моўкнуць у сэрцы песні. Усе да адной. Парваліся струны ліры. Усе да адной. Цемра агарнула нябёсы. Вось-вось пачнецца дождж. Ці пачую яго крокі? Гэта ж крокі Самога Творцы. Плачу. Гляджу ў сваё адлюстраванне і бачу свой апошні дзень — дзень, калі цені маіх кніг адплывуць у восеньскія туманы, мае старыя вершы знікнуць у вадаспадзе лістападу, згубяцца паміж берагамі граху і даравання. Так скончыцца свет, так ворагі стануцца сябрамі, а сябры сімваламі надзённасці, слядамі на брудным снезе. І дзень, і ноч, і раніца, і вечар, — усё абрынецца, як разуменне абсалютных ісцін. Нішто не ўратуе іх. Нават паэзія. <…>

*Друкуецца ў скароце*

# Межы



Юля ПАЛІСЯНКА

***Нарадзілася ў 1986 годзе на Валыні. Аўтарка чатырох кніг паэзіі, раманаў «Людзі без абліччa» (2023 г.) і «У целе жанчыны» (2024 г.)***

***

*Гэта ноч, што звініць*
*Мегафонамі тысячы слоў,*
*Маю волю забіла агнём,*
*Бо яна не навучана падаць...*
*Гэта розум, здаецца, мой сніць:*
*Мы ідзем толькі крыгаю сноў...*
*А пад намі — агонь —*
*Што, як ногі, абпаліць нам памяць...*

*А пад намі — агмень...*
*Цельцы шчэ ненароджаных слоў...*
*Глянь: як мучацца душы*
*Іх нямых, не апранутых голасам...*
*Я хаваюся ў дзень,*
*Калі б ты не маліў, не прасіў...*
*зноў і зноў...*
*Застаешся на сушы*
*Адзінокім падснежнікам...*

*А вакол — мітусня!*
*А навокал — пустыня людзей,*
*Што табе не дазволяць ажыць*
*І схаваюць пад новымі дзюнамі...*
*Але я — тая самая ўсё яшчэ я!*
*Вырвала б сэрца з грудзей,*
*Каб цябе напаіць...*
*Каб гады́ не здаваліся трунамі...*

*...Я прыйду ў твае ночы,*
*Быццам дзікі неўтаймоўны вір...*
*Сярод пекла пяскоў*
*Для цябе стану ціхім аазісам...*
*Нашы дні — вочы ў вочы.*
*Наша памяць пайшла ў манастыр.*
*Я для кветак ізноў*
*Горкіх буду магілаю-вазаю...*

*А навокал — сляды...*
*Целы зноў непрамоўленых слоў...*
*Дзіка мучацца душы*
*Іх нямых, не разрэджаных голасам...*
*Я паўзу да вады,*
*Калі б ты не маліў, не прасіў...*
*зноў і зноў...*

*Ты ж, як ракавінка, ляжыш,*
*Недапісаным нашым летапісам...*

### Па той бок сцяны...

***

*«Госпадзе, дапамажы!» —*
*Малюся пустой сцяне.*

*І...*

*Ледзянею ад думкі:*
*Не ўзяла з сабою ікон!*

*Дзіўна, але цяпер*
*і сапраўды ўпершыню*
*З болем заўважаю,*
*Што сцены ў гэтым пакоі*
*Цалкам пустыя —*

*Як ёмістасці з вакуумам,*
*Што паглынаюць,*
*І ад якіх нездарма*
*Намагаешся ўцячы*
*Цэласнаю...*

*Зусім-зусім пустыя...*
*Такія, як і сэнс майго існавання*
*Ад дваццаць чацвёртага лютага*
*Года,*
*Што слёзна паглядае на ўвесь свет*
*Трагедыяй трох двоек...*

***

*Увесь год*
*Гэтая чужая халодная сцяна*
*Не была пустой, не!*
*Я, пэўна, глядзела на яе*
*Вачыма найчыстага ўяўлення —*
*І малявала для сябе*
*Твары і лікі...*

*Малявала воінаў святла...*
*І найродныя мне вобразы:*
*Таты, маці, бабуль і дзядуляў,*
*Сясцёр, братоў, пляменнікаў... —*
*Усіх-усіх!*
*Бо яны ўсе*
*Былі для мяне жывымі.*
*Тут і цяпер...*

*Не на фронце,*
*Не ў далёкай роднай краіне,*
*Не па той бок Леты, —*
*А тут, зусім побач,*
*Па гэты бок сцяны...*

***

*Калі ён,*
*настойлівы і халодны,*
*у каторы раз і штоноч*
*запаўзае пад маю коўдру,*
*я перастаю кантраляваць*
*уласнае дыханне...*

*Ён лашчыць мяне*
*моцнымі рукамі дотыкаў;*
*найпатаемныя жаданні*
*дранцвеюць пры яго з'яўленні —*
*і маё маладое цела,*
*вільготнае ад балючых пястот,*
*ціха падпарадкоўваецца яго словам...*

*У такія імгненні*
*адчуваю сябе марыянеткай*
*у яго звышмоцных абдымках —*
*і... каторы раз аддаюся...*
*Аднак не добраахвотна, не, —*
*ён бярэ мяне сілай...*

*А на досвітку,*
*калі з цяжкасцю разлепліваю*
*стомленыя ад бессані вочы,*
*разумею простую ісціну:*
*ён...*
*ён нікуды не падзеўся...*

*Ён заўжды будзе побач,*
*пакуль працягваецца*
*гэтая праклятая,*
*праклятая нават Богам*
*вайна...*
*(Бо мае права!)*

*Ён жа, разумееце,*
*амаль мой законны муж.*
*(Мы ж абвянчаліся яшчэ ў лютым*
*2022-га...)*
*Так-так, законны муж*
*ён,*
*мой СТРАХ...*

*Я абяцала яму*
*быць вернай,*
*пакуль смерць не разлучыць нас...*
*Толькі...*
*больш за ўсё на свеце*
*рана ці позна*
*я мару яму ЗДРАДЗІЦЬ!!!*

***

*Я нават размаўляла з імі,*
*Уяўнымі, —*
*Здавалася, тварам да твару...*
*І не было гэта вар'яцтвам, не! —*
*Нябачная нітка любові...*

*Я ведала сотні такіх нітак:*
*Ад Літвы, Латвіі, Польшчы,*
*Чэхіі, Англіі, Германіі, ЗША... —*
*І ген да Украіны...*

*А тыя, што найдаўжэйшыя,*
*Тыя і наймацнейшыя*
*(Цэлыя канаты!),*
*Яны яднаці са мной неба:*
*Спярша — вобразы родных...*
*А потым — абразы́ святых...*

***

*Яны ж, вобразы і абразы́,*
*З'яўляліся мне па чарзе,*
*Часцей за ўсё ў адзіночку —*
*Нібы сходзілі са сцяны...*

*Мы так доўга гаварылі*
*Аб найважнейшых*
*(І ў той жа час найпростых) рэчах —*
*Менавіта тады,*
*Калі мае вусны былі запячатаныя*
*Самай палкай у свеце малітвай...*

*А потым прыходзілі яны,*
*Нябесныя і бясплатныя...*
*І бралі мяне на крылы,*
*Каб закалыхаць*
*Мае слёзныя шкадаванні...*

*(А тыя, як капрызныя дзеці,*
*Ну зусім не хацелі засынаць.*
*І ў каторы раз, аж да світання,*
*Проста прытвараліся, што спяць...)*

***

*А Марыя...*
*Яна размаўляла са мной*
*найдаўжэй...*
*(Праўда, больш маўчала*
*і, хутчэй, слухала...)*
*І штораз заставалася на ноч —*
*Стаяла, прытуленая да сцяны,*
*Аж да самага ранку...*

*А раніцай абедзве,*
*Толькі я і Марыя,*
*Мы так шчыра маліліся*
*Нованароджанаму сонцу:*
*За Веру, Надзею, Любоў,*
*За Лёс Сусвету*
*І Будучыню Чалавецтва...*

*Яны ж цяпер — ва Украіне!*
*Іх дэлегацыя ў Кіеў —*
*Наўпроставае рашэнне Неба,*
*Палітычнае і звышважнае...*
*Што дарэмна абмяркоўваецца*
*Наіўнымі Прарокамі*
*Гэтага свету...*

### Межы

*Крохкаю крэйдай волі*
*Я акрэсліваю сваю тэрыторыю...*
*Гэта — мае межы!*
*Табе — цыц!*

*(Пераступі, прашу,*
*Гэтую мяжу...*
*Гэта і маё*
*Найзапаветнае жаданне...)*

*Я занадта жорсткая!*
*Кветка? Ружа!*
*Якая мае калючкі...*
*Абяцаю: будзе вельмі балюча...*

*(Калі ты маеш смеласць*
*Паверыць у процілеглае,*
*Мы можам стаць*
*Найшчаслівою парай на Зямлі...)*

*Каханне — грэх!*
*Любіць можна толькі Бога!*
*Зямная ж любоў*
*Няўхільна вядзе ў геену...*

*(Што такое Бог?*
*Бог ёсць ЛЮБОЎ...*
*Хто мае вушы — пачуе...*
*Хто здольны бачыць — пабачыць...)*

*Крохкаю крэйдай волі*
*Я акрэслю сваю тэрыторыю...*
*Гэта — мае межы!*
*Табе — цыц!*

*(Калі ж ты станеш*
*Добраахвотным ахоўнікам*
*Маіх каменных уладанняў,*
*Я з радасцю буду*
*Тваёй паднявольнай...)*

*Пакора — адна з найвялікшых*
*Жаночых вартасцяў...*

*(Але скараецца толькі сэрца,*
*Якое ўмее кахаць...)*

*Дый уладарамі становяцца*
*Адно выбраныя Богам...*

*(Вось толькі часцей за ўсё*
*Яны і самі не ўсведамляюць,*
*Што яны — уладары...*
*Уладары новага Сусвету!*

*Таму так часта і не цэняць*
*Межы*
*Сваёй звышдзяржавы...)*

### Пад ключом (Цыкл)

***

*Я, верагодна, істота мудрая:*
*Ніколі не аддаю сэрца цалкам —*
*Заўсёды пакідаю пад ключом*
*Адзін-адзіны пакой...*

*А калі Госць такі сыходзіць —*
*Старанна і да бляску*
*Выціраю ў ім*
*Нават усе чужыя пахі,*
*Што выпадкова сюды патрапілі*
*З суседніх пакояў...*

***

*Мець сваю тэрыторыю —*
*Называецца мудрасцю...*
*Ці ж прыхамаццю*
*Жанчыны-вар'яткі...*

*(Часам я і сама вагаюся*
*Паміж абодвума варыянтамі...)*

***

*І нават калі ў маім сэрцы Госць,*
*Я так часта зачыняюся*
*Ў гэтым уласным пакоі,*
*Што нават маладым вокнам*
*Становіцца за мяне сорамна —*
*Яны зашторваюцца*
*Ад бачнага чалавечага свету.*

*А гадзіннікам мяне*
*Проста шкада...*

***

*Мае цыферблаты*
*Носяць пазалочаныя маскі —*
*Люблю апранаць у прыгожае*
*Нават здрадлівы Час...*

*(Забабонна паважаю*
*Вандроўнага рыцара*
*І яго нябачнага каня...)*

***

*Часам, калі Госць сыходзіць,*
*Застаюцца скразнякі —*
*Настолькі моцныя,*
*Што нават дзверы ў патаемны пакой*
*Гучна грукаюць мінулым —*

*І боль адчуваюць*
*Нават цыферблаты...*

***

*Я ж сама*
*Ніколі не здраджваю...*

*Проста штораз*
*Дакупляю да дзвярэй*
*Усё новыя і новыя замкі...*

***Пераклад з украінскай Міколы АДАМА***

# Нэрык



Янка ТРАЦЯК

Сабака ў Нэрыка (так звалі ў вёсцы аднаго гаспадара) быў злы і непрадказальны, а таму ўвесь час быў наважаны. Паскудны быў сабака — нікога не падпускаў да сябе. Нават на дзяцей кідаўся. Але на ланцугу, куды яшчэ не ішло, прыносіў хоць нейкую карысць сваім брэхам. І калі хто праходзіў вуліцай, дык біў ён у той ланцуг з такой моцай і страшным брэхам, што, здавалася, калі сарвецца, дык парве на месцы. Але варта толькі было яму сарвацца, дык адразу кідаўся ў поле, чым далей ад людзей. І пакуль не нацешыцца воляй, яго людзі не цікавілі. А пасля ўжо мог моўчкі падкрасціся ззаду, раптоўна забрахаць і ўчапіцца клыкамі ў сцягно.

Паскудны быў сабака.

Войт з гміны — пан Сакульскі — усё абяцаў прыстрэліць «злэго псяру», але, відаць, рукі ў яго не даходзілі да стрэльбы. І Нэрык, вядома, не спяшаўся нагадваць войту пра «псяру», толькі ланцуг той стаў правяраць часцей, каб, барані Божа, сабака не сарваўся.

Была ў гэтага сабакі адна адметнасць — вусы. Чорныя, пухнатыя, яны з двух бакоў сіметрычна абступалі сабачую морду.

А неяк раз зайшоў да Нэрыка старац Лойка з мястэчка, і звярнуў ён увагу на дзіўнага вусатага сабаку:

— А як ты клічаш свайго сабаку?

— Ну, так, як усе: «сабака, на-на-на...» — адказаў Нэрык.

— У сабакі павінна быць свая мянушка: Бобік, Цюлік, Шарык, Рэкс, Вафлік нарэшце, — падказваў Лойка.

— Ат, і так добра, — махнуў рукой Нэрык і ў сваю чаргу падзівіўся таму, што вусаты чалавеканенавіснік не брахаў на старца, спакойна глядзеў у іх бок, быццам падслухоўваў гутарку пра мянушкі.

А на развітанне старац заўважыў:

— У твайго сабакі вусы усё роўна як у Сталіна, — і расмяяўся.

Калі Лойка пайшоў, Нэрык задумаўся: сапраўды, у кожнага дрэва ёсць сваё імя, у кожнай раслінкі, у кожнай скацінкі, а тут — сабака. Трэба, мусіць, каб і ў гэтага кудлатага і вусатага стражніка было нешта сваё.

Але на ўсе «на-на-на», кшталту Бобік, Шарык, Рэкс, Цюлік, вусаты сабака ні вусамі, ні вушамі не вёў.

— Ах ты, скаціна! — абурыўся Нэрык. — Вусы адпусціў, як усё роўна ў Сталіна...

І тут сабака радасна заскуголіў, замахаў хвастом, як прапелерам, стаў лётаць каля Нэрыка і кідаца яму на грудзі, каб лізнуць у твар...

І пасля, варта было Нэрыку толькі агучыць псеўданім «бацькі народаў», як сабака з вялікай сабачай радасцю з усіх ног кідаўся да Нэрыка.

Так безымянны сабака Нэрыка стаў Сталінам. Мянушка, відаць, самому сабаку спадабалася, і ніхто не мог ведаць, з якой такой нагоды.

Спадабалася такая мянушка і мясцоваму войту, які праязджаў неяк вуліцай на брычцы са стрэльбай, а нехта з сямейных Нэрыка клікаў сабаку. Праўда, сам пан Сакульскі не вельмі падабаўся Сталіну (сабаку), бо той заўсёды зацята на яго брахаў. Брахаў сабака на войта і на гэты раз, але пан Сакульскі высакародна паабяцаў прыстрэліць Сталіна як сабаку іншым разам, калі толькі той сарвецца з ланцуга.

У вёсцы былі ўсялякія людзі: адны смяяліся з такой мянушкі, другія абураліся такім, як яны казалі — «паганялам», асабліва абуралася тая частка моладзі, якая сімпатызавала Савецкай Беларусі і СССР. Адзін раз, калі ўся сям'я была ў полі на жатве, яны закідалі Сталіна каменнямі, праўда, той схаваўся быў у будку, а патрапіць каменем у даволі такі вузкую дзюрку не так ужо было і проста... Другі раз, калі яны прыйшлі дабіваць сабаку, каб не зняслаўляў імя «вялікага чалавека», той сарваўся з ланцуга і амаль што з усіх паспускаў порткі і абадраў лыткі і нават вышэй лытак... Прыходзіў да Нэрыка з пастарунку гмінны паліцэйскі разбірацца ў гэтай справе, правёў допыты і сказаў, што тут яны былі самі вінаватыя, маўляў, справакавалі сабаку... Хай не лезуць...

Усё было б добра і далей з гэтым Сталінам-сабакам, нават войт пан Сакульскі прымірыўся з ім, больш таго, нават стаў яго паказваць павятовым уладам, калі тыя былі ў гміне, і ганарыцца тым, што толькі ў яго гміне ёсць сабака Сталін...

Дык вось, усё было б добра, калі б не 1939 год і каб не прыйшлі саветы...

Неяк аднойчы з'явілася на падворку цэлая дэлегацыя новай улады. Здзівіла тады Нэрыка тое, што былі яны апранутыя ў розную вопратку: хто ў міліцэйскай, хто ў армейскай форме, а хто і ў цывільных строях. І кожны ўсё нешта выпытваў, і кожны ўсё нешта хацеў ад Нэрыка...

Сабака тады быў сарваўшыся і лётаў недзе сваімі сабачымі справамі, а сямігадавалы Уладзік, — сын Нэрыка, — выскачыў на вуліцу з міскай у руках і, не звяртаючы ўвагі на прышлых, закрычаў што ёсць моцы:

— Сталін, Сталін!. На-на-на-на!.. — і дадаў звычайнае: — Каб ты здох...

Усе прысутныя на падворку анямелі раптоўна.

Першым апомніўся той, хто быў у міліцэйскай форме.

— Не понял, — сказаў ён. — Эта што за іздзевательствы?..

— Ды я меншага сына так назваў... у гонар самога, — знайшоўся што сказаць Нэрык.

Але тут з-за хлева выскачыў вусаты сабака, гаўкнуў пару разоў на людзей у форме і без формы і прагна накінуўся на міску, якую каля ганку паставіў Уладзік.

— Не понял! — зноў прамовіў міліцэйскі. — Эта што жа такое палучаецца?..

І тут загаварылі ўсе астатнія і з такім абурэннем і нянавісцю ў адрас Нэрыка, што той міжволі ўспомніў гвалтаўніка непаўналетняй дзяўчынкі з мястэчка — тым гвалтаўніком людзі абураліся значна менш...

Калі шум трохі прыціх, прагучаў вырашальны голас незнаёмага Нэрыку чалавека ў цывільным, відаць, нейкага начальніка:

— У нас тут дастатачна кворуму прысутных, каб рашыць вапрос на месце... Предлагаю: за іздевацельства над іменем велікаго вождя хазяін сабакі і члены яго сям'і як саучастнікі і як ворагі савецкай улады падлежат немедленнаму арышту і суду... Сабака як насіцель іздевацельств і вешчдок падлежыць немедленнай ліквідацыі...

Сабака адчуў, што нешта нядобрае задумалі гэтыя злыя людзі, гаўкнуў яшчэ пару разоў у іх бок і даўся бульбоўнікам за хлеў... І ліквідатары толькі хвост убачылі ад таго «вешчдока».

А Нэрыка і ўсю яго сям'ю арыштавалі ў той жа дзень. Прыступілі і да ліквідацыі сабакі, і некалькі дзён два чырвонаармейцы сядзелі ў засадзе, але сабаку ўратавала сабачая інтуіцыя — не паказваўся на людзі Сталін (сабака) у тыя дні.

...А Нэрыка тады ўратаваў швагер — быў ён актывістым і не апошнім чалавекам пры новай уладзе. Праўда, шмат прыйшлося Нэрыку пакідацца на падлогу перад розным начальствам, вялікім і малым; і плакаць прыходзілася, і шчыра каяцца, і завяраць у сваёй вернасці і паслушэнстве, і даваць абяцанкі адным з першых уступіць туды, куды толькі можа прапанаваць новая ўлада (так навучыў швагер): у камуну, дык у камуну, у калгас, дык у калгас з усёй сваёй маёмасцю, з усёй сваёй сям'ёй, з каровай, з канём, са свіннямі і нават з курамі... А можна, хоць у камсамол, хоць у партыю, хоць куды хочаш ён гатовы быў уступіць, хоць у г-но... Маўляў, ён не вораг савецкай уладзе... А свайго вусатага сабаку, каб той здох, ён сам знойдзе і прыстрэліць, здзярэ скуру і павесіць боўтацца на плоце, каб усе бачылі...

...Так Нэрык стаў камунарам, а пасля і першым калгаснікам... А сабаку ён знайшоў (сам прыляцеў), але не стаў забіваць, пашкадаваў і перавёў вусатага псяру на часовае пражыванне ў хлеў да свіней. Праўда, Сталінам яго больш ніхто не клікаў — на такое імя была жорсткая забарона. Увогуле, сабаку больш ніякімі мянушкамі не называлі: толькі сабака, а дзеці гаварылі цюцька.

Прыходзілі неяк камсамольцы, цікавіліся вусатым сабакам. Нэрык сказаў, што няма больш сабакі, маўляў, застрэліў. А на пытанне: «Чаму скура не боўтаецца на плоце?», Нэрык адказаў, што скуру нехта ноччу на бубен сцягнуў... А сабаку тады хапіла розуму не падаваць свой «гаў» з хлява, і ўсё абышлося.

А тут у свеце сітуацыя стала рабіцца напружанай. Усё больш і больш сталі гаварыць пра палітыку, пра Гітлера, пра Сталіна (кіраўніка Савецкага Саюза). Любіў пра гэта пагаварыць і Нэрык. І не падабаўся Гітлер Нэрыку гэтак жа, як некалі не падабаўся і Сталін (палітык). Злыя яны нейкія, і гэты Гітлер усё брэша і брэша, як усё роўна злы сабака... І таксама ж вусаты...

І стаў Нэрык неяк аўтаматычна называць свайго вусатага сабаку Гітлерам. Сабака не можа быць доўга без свайго імя. Напачатку сабака ўпіраўся, бурчэў, але з часам звыкся. А куды дзенешся, калі не паверне Гітлер (сабака) галаву на сваю новую мянушку, Нэрык адцягваў далей міску з ядой.

А яшчэ праз нейкі час сабака ў новай іпастасі вярнуўся на сваё старое месца пражывання ў будку каля хлева. І смела брахаў ужо на астатніх не як Сталін, а як Гітлер.

Праходзілі аднаго разу камсамольцы вуліцай і звярнулі ўвагу на сабаку, маўляў, ці не той самы вусаты сабака, бо вельмі ж падобны?..

— Не, не, што вы!.. — заверыў тады Нэрык. — Гэта ўжо зусім другі сабака, у таго і вусы былі большыя, і той жа быў Сталін, а гэты — Гітлер...

Вусы Нэрык сабаку трохі падрэзаў спецыяльна.

— Але ж надта падобны, — сумняваліся камсамольцы.

— Прырода... Відаць, ад адной маткі, — удакладняў Нэрык.

Камсамольцы хоць і пакрывіліся, але змірыліся з прыродай і з новым «паганялам» і Гітлера не закідвалі каменнямі.

Усё было б добра, а тут 1941 год... і прыйшлі ў вёску немцы...

І з'явіліся яны на падворку Нэрыка гэтак жа, як некалі і саветы. І быў сярод іх адзін паліцай, які да іх прыходу быў камсамольцам і на Нэрыкавым падворку бываў не раз, і добра ведаў усю сабачую гісторыю.

Сабака Гітлер як усё роўна адчуў, што прыйшлі «свае», і паводзіў сябе больш-менш спакойна. Але трапіў ён на вочы камсамольцу-паліцаю, і той, радасны, стаў нешта расказваць таўставатаму немцу, відаць, галоўнаму. Немец спачатку смяяўся, відаць, калі гутарка ішла пра тое, як сабака называўся Сталінам. Ён узяў у салдата аўтамат, падышоў да сабакі і гучна абвясціў:

— Сталін капут...

Але паліцай прадоўжыў свой аповед:

— Гаспадзін афіцэр, але цяпер гэты сабака называецца Гітлерам...

Афіцэр, які ўжо быў ускінуў аўтамат у бок сабакі, каб стрэліць, апусціў моўчкі рукі.

— Найн, найн! — закрычаў Нэрык. — Гэта няпраўда. Гэта — Сталін! Сталін капут!

А паскудны паліцай стаў дакладваць немцу, як і за што Нэрыку даравала савецкая ўлада, маўляў, адзін з першых, хто падаўся ў камуну і ў калгас...

Сітуацыя для Нэрыка вымалёўвалася прыкладна такая, як і для сабакі, — можа быць абодвум «капут».

Афіцэр на хвіліну задумаўся, а пасля нешта скамандаваў сваім салдатам, і тыя колькі разоў ударылі Нэрыка, пасля звязалі рукі і кінулі ў кузаў машыны.

Каля дзесяці сутак правёў Нэрык у нямецкай камендатуры ў мястэчку. На гэты раз дапамагчы Нэрыку не было каму — швагер уцёк разам з савецкай уладай некуды на ўсход. І білі немцы Нэрыка, і здзекваліся, і дапытвалі, але што было дапытваць... І ён расказаў каменданту ўсё, як было, бо і не было чаго ўтойваць: і пра камсамольцаў расказаў, і пра тых, хто яго арыштоўваў пры саветах, і пра швагра свайго, і пра тых, хто ўцёк і хто застаўся... На дзясяты дзень яго адпусцілі, і вярнуўся ён у сваю вёску... солтысам. Так, нямецкім старастам, начальнікам, роўным кшталту войта ці старшыні сельсавета.

Пайшоў на паўшэнне і сабака: камендант загадаў новаму солтысу прывесці сабаку да камендатуры, і сабака стаў верна служыць ахоўнікам пры гарнізоннай камендатуры. І, зразумела, сабаку камендант даў новае і вельмі цікавае імя — Нэрык.



Фота fishki.net



Фота dogbreeds.name

# «Той жа, толькі лепшы»

## (Анатоль Івашчанка, «Непрамо(ў)ленае».)

Цяпер кнігі выходзяць незаўважна. І так нават лепей. Для ўсіх без вынятку: для тых, хто піша, хто чытае, хто выдае, хто прадае. Такі час. Рэдкая кніга выйдзе цяпер гучна. Хіба пасмяротная ды юбілейная якая…

Трэцяя паэтычная кніга Анатоля Івашчанкі «Непрамо(ў)ленае» выйшла далёка і ціха. Прасачылася разам з лонданскім туманам і кандэнсавалася ў руках тых, хто валодае забытай навукай спыняць нябачную парнасць на кропцы расы.

Я не з такіх, мне проста пашанцавала быць шмат апошніх гадоў побач з аўтарам, — кнігу мне падарылі. Не буду пачынаць пра тое, што гэта наогул забытая цырымонія з мінулага стагоддзя, скажу толькі, што пабачыў у радках і паміж.

Пачну з таго, што на старонках вас сустрэне той самы добры і шчыры лірык, паэт, якому важныя і **тэкст і падтэкст**, які любіць слова і ведае яго, які сябруе з формай і спакойна дазваляе сабе эксперыментаваць з ёй, ні на імгненне не губляючы думкі.

Вы без цяжкасцяў і з прыемнасцю пазнаеце почырк аўтара: тут будуць і фірмовая **гульня слоў** (у якой Анатоль, несумненна, дасягнуў высокага ўзроўню), і **пасхалачкі ды адсылачкі** (што пераадрасуюць вас куды заўгодна — ад самога аўтара ў папярэдніх творах да Грабеншчыкова і Толкіена); тут будзе беларускі лайтовы будызм — з чакрамі, сутрамі (на гэты раз чорнымі) і тэматычная блізкасць сабе ранейшаму.

Сапраўды, чытаючы новыя вершы неяк раптам узгадваеш радкі ранейшых твораў. Працяг думкі? Адказ на пытанні, пастаўленыя самому сабе многія гады таму ці проста паслядоўнае думанне адных рэчаў? Дакладнага адказу ў мяне няма, але ці ён патрэбны?

Пра што новая кніга? Некаму падасца, што найперш пра нашае стромнае жыццё апошняе пяцігодкі з кавідамі, войнамі і стратамі, нехта скажа — пра рыбалку і сям'ю, нехта — што пра лёс паэта ў сучасным свеце з незапатрабаванасцю з аднаго боку і спакуслівымі лайкамі з іншага. Усё так, рацыю будзе мець кожны. Але мне падалося, што яшчэ гэтая кніга вершаў пра **горад** — і тут Анатоль верны сабе, бо ад пачатку ён быў **паэтам места** найбольш з многіх тых, хто прыйшоў у паэзію ў ягоным пакаленні. Лепшыя вершы якраз пра гэта:

*Горад тоне ў мане*
*у быкаўскім тумане́*
*ў кінгаўскім тумане*
*у тумане Манэ…*

У зборніку немагчыма абмінуць гэтыя «гарадскія» вершы: трошкі парадаксальны і прыцягальны, як усё змрочнае — пра менскі гатэль «Мінск», сумны і такі цёплы верш «Абвестка», трывожны, як сірэна паветранай трывогі, верш «***мой горад — рэжымны аб'ект»…

Таксама гэтая кніга пра (прабачце за дзікі слэнг савецкіх падручнікаў) — **месца і ролю творцы ў свеце**: «ня той паэта», «*** з юнацтва абвешчаныя геніяльнымі» і іншыя, дзе аўтар, як і раней, задае нязручныя і важныя пытанні, якія, як і раней, важна прачытаць, каб зразумець нешта сваё.

Таксама скажу, што новая кніга **найперш пра любоў**. Менавіта так, «Пра любоў», называецца адзін з найбольш упадабаных мной вершаў. Ён трошкі смешны, сумны і цёплы адначасова. Як пер'е птушак, як цёплыя крошкі батона, як па́ра з адчыненай форткі, за якой стаіць паэт:

*я кармлю праз акно галубоў*
*дробна пашатканым батонам*
*я кармлю не таму што любоў*
*больш няма пакрышыць на каго…*

Кніга — пра любоў да жыцця, усяго добрага і дрэннага, што адбываецца з намі, пра любоў як мэту і сродак існавання.

Між іншым, пра **любоў да сваёй мовы** — без пафасу і патрыятычнага надрыву, але глыбака і важка: *мова — мая ахова // мова мая — мой сцяг // мова мая — мой гонар // мова мая — мой шлях.*

Любові ў гэтай кнізе хапае нават на смерць, якая «глядзіць у люстра задняга віду» і задзімае з дазволу аўтара свечкі на імянінным торце — тонкі і светлы верш «Сінявокая».




Карацей, «Непрамо(ў)ленае» — гэта ўдалы і шмат у чым узорны зборнік-трыптых, складзены з трох частак з невялікай паслямовай аўтара, дзе ён тлумачыць паходжанне, храналогію і гісторыю стварэння і ўкладання кнігі сваіх «**ада**браных», а я дадам «адобраных» вершаў.

Кнігу «Непрамо(ў)ленае» лёгка чытаць — яна пакідае веру ў тое, што добрая паэзія знаходзіць сілы з'яўляцца і ў цёмныя часы, а таксама яна дорыць тонкую нітачку надзеі на лепшае, трымацца якой — важна.

***Усевалад СЦЕБУРАКА***

# «Нармальным тут не месца»

## (Саша Філіпенка, «Былы сын».)

У літаратуры хіба ў адным творы я сустракаў апісанне жудаснай трагедыі накшталт нашай на Нямізе. Горкі, «Жыццё Кліма Самгіна». Там ёсць пра Хадынку.

І вось Саша Філіпенка… Калі б толькі адна трагедыя і ад яе — тэма, было б зусім іншае. Але аўтар не спыніўся на адным рэзанансным здарэнні ў Беларусі — ён «выключыў» свайго героя на 10 гадоў, прымусіў прачнуцца, каб той стаў сведкам яшчэ некалькіх, самых гучных.

Тут мне прыляцеў першы флэшбэк (другі прыляціць пазней і трошкі аглушыць). Кома героя ў Беларусі, вяртанне памяці… Барыс Пятровіч, «Спачатку была цемра». Пэўна ж, толькі з-за сціпласці аўтара кніга не атрымала належнага ёй розгаласу. Некалі я напісаў пра яе, але тэкст недзе і ляжыць нулямі і адзінкамі на дыску. Герой Пятровіча вяртаецца да памяці сам, вяртаецца доўга і пакутліва. І ў гэтым вяртанні ёсць роздум, ацэнка мінулага, ёсць пошук сябе і свайго месца. Маем самае сапраўднае будаванне рэчаіснасці на аснове толькі свайго ўспрымання, без прымешку чужых ацэнак. Працэс намаляваны захапляльна.

Саша Філіпенка выводзіць свайго героя з комы на раз-два.

Можаце кідаць у мяне камянямі. Але скажу, што ў гэтым тэксце ёсць відавочны элемент спекуляцыі на болю. Ніхто пра гэта ўсё разам не пісаў, пра нейкае адно нават было хіба два-тры тэксты. Нямігу ж хіба краталі?

Адна справа, калі ты кажаш, што кніга «не мая». Іншая — калі агучваеш няўхвальны водгук. На тое, што іншымі ці не абагаўляецца, за што атрымана гэтулькі прэмій, што перакладзена… Водгукаў станоўчых было многа, вельмі многа. І вось самы нядаўні пад выданне беларускамоўнай версіі, дзе герой раману параўноўваецца з героем рамана «Лавец у жыце» Сэлінджэра… Вось з лепшага водгука на Лавлібе: «Неровный и не лишенный недостатков, он обладает в моих глазах неоспоримым достоинством — увлекательно рассказывает про современную Беларусь». Увлекательно… Што ж там такое захапляючае? А во ў другім водгуку: «захватывает трагедию на Немиге похороны Быкова теракт 3 июля выборы 2010 теракт в метро 2011…».

Набіраюся нахабства не захапіцца кнігай, якая так рэкламавалася:

«Классика жанра, химически чистый продукт: и молоко не обсохло, и сразу роман, и сразу о главном, и никакой политкорректности, и без оглядки на «талсюевских», и — получилось. Обаятельный и талантливый ведущий телеканала «Дождь» дарит своим первым читателям редкую возможность — спустя много лет сказать детям или внукам: «Саша Филипенко? Помню-помню, как он начинал — «Бывший сын». Не читали? Ну как же так! Очень рекомендую». Саша Филипенко занял первое место в конкурсе "Русская премия" за 2014 год в номинации «Крупная проза».

Не нейкі нехта кнігу прэзентаваў — тэлевядучы. Але, б'ю сябе па руках і прыкусваю язык: прызнаючы мастацтва пісаць раманы, варта прызнаць і мастацтва іх продажу. Нічога асабістага, толькі бізнэс.

Прабачце за такі доўгі ўступ. Цяпер нешта адмоўнае казаць пра гэты раман — як проці ветру с..ь.

Не стану чапаць самую жудасную частку рамана. Да жудасці ідзе частка рэал, дзе на маё сціплае меркаванне можна б было і без мацюкоў. Над плошчай «Ябу я коласа», канешне ж, пасмяяліся масквічы. Ды і з мінчан такіх было нямала. Нам што, мы цярплівыя, мы звыкліся, калі іржуць з таго, што мы лічым за амаль сакральнае.

Гэтая частка рэал папярэдзе — вельмі пазнавальная… Спрэчкі на педсавеце, дзе абавязкова нехта за, нехта супраць, а дырэктар — міратворац… І не важна, за што там ломяцца коп'і: гісторыя, палітыка ці вучні. Адзін будзе вельмі свядомы, другі — сталініст. Так мяркую, сэнс педсавета — паказаць, што там за настроі былі ў краіне. Не скажу, што атрымалася добра, аддае шаблонам.

Зазначу вось што: вельмі няпроста — перамагчы ў сабе прафесійныя навыкі. З гэтай кнігай відавочна не атрымалася «пераключыцца» цалкам. Наўсцяж у тэксце праскоквае журналістыка, і хай яна даказвае адвароткае, гэта не паляпшае цалкам кнігу. Не верыцца, напрыклад, у такую гарачую прамову старшакласніка (цытую расійскамоўны арыгінал):

«Перейди детскую железную дорогу, зайди в парк и посмотри, сколько людей в начале века расстреляли только за то, что они говорили на своем языке! Ты просто представь себе всех этих людей! Просто представь, что они были, а потом в один день их расстреляли. Расстреляли наши дорогие братья. Расстреляли не за кражи, не за убийства, не за разбои, но только за то, что они говорили на своем родном языке. На языке, на котором действительно думали…».

Ад гэтай журналістыкі, мяркую, атрымаліся і героі. Калі станоўчы герой — бабуля, — дык ва ўсім. Калі адмоўны — доктар, — дык каб кляйма не было куды ставіць.




Бабуля… Апошні з магікан. Вобраз і сімвал: дабрыні, людскасці, любові, справядлівасці, вернасці, адданасці, рашучасці і — пералічвайце ўсе станоўчыя якасці, якія згадаеце — іх ёсць там.

Галоўны герой? Не пабачыў. Ніякі. І нідзе. Нават ягоны сябра, той, каторы зводзіць рахункі з жыццём — куды больш сапраўдны.

І неўпрыкмет вымалёўваецца звышзадача і ідэя фікс: нармальным тут не месца.

Тут да мяне прыляцеў куды больш моцны флэшбэк.

Давайце разам. Значыць, бабуля. Як апошні носьбіт чалавечай годнасці. Калі да яе вяртаюцца — яна памірае. Сустрэчы не адбываецца. І герой застаецца сярод шэрасці, подласці і — далей пералічвайце смела ўсе заганы грамадства.

Успомнілі вядзьмарку Евы Вежнавец? Яе ўнучку?

Калі нехта мне запярэчыць наконт таго, што, маўляў, унучка вядзьмаркі знайшла крыніцу — і гэта як бы на нешта намякае… Прабачце: далейшую Беларусь будуць будаваць крымінальнік з алкашкай, больш няма каму ж, так? А вы знайшлі самае неверагоднае месца ў кнізе «Па што ідзеш, воўча?»? Я ўсяму чысцейка паверыў, апроч аднаго. Як у канцы заводзіцца той самы трактар. Вось дзе пайшла фантастыка. Хіба не затым яна тут, каб падкрэсліць: толькі ў фантастыцы і здольныя беларусы на нешта.

Дарэчы, трэба заўважыць, што журналістыка і ў Евы Вежнавец праскоквае. І хай мова моцная і густая, але часам успаміны ўнучкі пра ўспаміны бабулі чытаюцца як газетны артыкул. І ёсць месцы, калі думае бабулька (ці алкагалічка?) як абвінаваўца міжнароднага трыбуналу.

…Гэту краіну трэба абгарадзіць калючым дротам. У ёй няма больш людзей. Там — асобіны. Там правіць баль хіжасць і подласць, угодніцтва і нахабства. Там — звяр'ё над звяр'ём, кожнае з якіх імкнецца вылезці і быць над іншымі. Там, за гэтым калючым дротам, не засталося нічога святога, тут затаптаныя ў гразь законы чалавечыя і запаветы Божыя.

Чым прыцягальная гэтая кніга, а дакладней — гэтыя дзве кнігі для менавіта іншаземца? Помніце пра эфект замочнай шчыліны? Ты назіраеш за нечым страшным — а сам у бяспецы. Так і тут: ты чытаеш пра страшны народ, які страціў апошнія кроплі сумленнасці ў сваё душы — і табе добра, бо гэта не твой народ. Гэта не твае суайчыннікі забівалі, гвалцілі, катавалі, рабавалі і — маўчалі, маўчалі, маўчалі, абыякавыя да чужых жыццяў, хоць тыя чужыя былі часам радней за родных. Абыякавыя да ўсяго, акрамя свайго трыбуха.

Каму не спадабаецца чытаць такое пра іншых, пра чужую краіну? Ты не такі — значыць, лепшы. І табе добра.

Чытайце — і дзівіцеся на гэтую выродлівую нацыю, якой не стаць чалавечнай. Бо — няма з чаго. Там усё — вымерла, і ваўку сапраўды няма ўжо па што ісці.

Саша Філіпенка (як і Ева Вежнавец) ніколькі не хавае гэтай сваёй думкі.

А мне гэтая думка не падабаецца.

***В. Г., bellit.store***

# Харукі МУРАКАМІ: «неяпонскі» японскі аўтар



Раксана НАЙДЗЁНАВА

У стагоддзе тэхналогій і пагалоўнай пісьменнасці чакаеш ад літаратуры, і наогул ад мастацтва ў цэлым, вялікай разнастайнасці. Ва ўсякім разе большшага, чым было пры трох працэнтах насельніцтва, якое ўмела чытаць. Але чамусьці ў выніку мы назіраем адваротны працэс. Чым больш масавая і адукаваная чытацкая аўдыторыя, тым больш значны яе ўплыў. А публіка, як правіла, хоча таго, што ёй спадабалася ўчора... але іншага.

Запыт парадаксальны па сваёй сутнасці. Таму, відаць, мы жывем у эпоху так званых трэндаў і мэйнстрыму. Прытым мы ж памятаем, што ўмець прачытаць — гэта не значыць умець зразумець. І таму гэты «галоўны струмень» такі непрадказальны, наравісты. Кагосьці ён топіць, а кагосьці ўзнімае. І застаецца толькі дзівіцца, як той ці іншы аўтар патрапіў у спіс фаварытаў, улюбёнцаў публікі.

Калі зайсці ў кнігарню, то можна зразумець, што «на кані» сёння дзіцячая і падлеткавая літаратура — у шырокім сэнсе: усё, што можа заняць маладую аўдыторыю — ад старых добрых «Вінаваты зоркі» Джона Грына да экзатычных гісторый «Ружы вятроў», якія, па сутнасці, усё тыя ж «зоркі», толькі ў профіль — гэта значыць у іншых, больш складаных дэкарацыях.

Але на гэтым фоне існуе некалькі феноменаў. Напрыклад, Харукі Муракамі. Адкрыты і таварыскі.

Калі вы захапляецеся Муракамі, то напэўна чулі, што яго лічаць самым папулярным «неяпонскім» японскім аўтарам. На радзіме яго шмат і даволі жорстка крытыкуюць, а ў свеце ў яго натоўпы прыхільнікаў.

Муракамі набыў вядомасць пасля выхаду рамана «Паляванне на авечак» (1982). «Паляванне на авечак» — завяршальная частка «Трылогіі Пацука», з якой аўтар і пачаў свой творчы шлях. Гэта ўжо пазней выйдзе працяг — «Дэнс, дэнс, дэнс». І цікава, што найбольшай папулярнасцю ў чытача карысталася менавіта трэцяя частка; звычайна ў вялікіх творах многія спыняюцца на першай, як на загалоўнай. А тут наадварот. Магчыма, справа ў росце прафесіяналізму Муракамі. Магчыма, у добрых перакладах.

Яго шмат разоў намінавалі на Нобелеўскую прэмію. У чым жа сакрэт папулярнасці аўтара?

## Сакрэт № 1. Прыхаваны мэйнстрым

На жаль, публіку не падманеш. Гэта толькі літаратурны аглядальнік «сам падманвацца рады». Таму калі ўжо зусім абмежаваць публіку ў яе жаданнях, не даваць ёй тое, чаго яна прагне, яна ўсё роўна адвернецца нават ад самага знакамітага аўтара. Таму сучасныя юнацкія трэнды ў творчасці Муракамі, вядома, абагульняюцца, толькі ў больш завуаляваным, «дарослым» выглядзе.

Памятаеце маркетынгавы ход, калі кнігі пра Гары Потэра «перазапусцілі» ў строгіх аднакалярових вокладках, каб сталыя чытачы не саромеліся чытаць у метро дзіцячыя кніжкі? Вось і тут нешта падобнае, толькі на ўзроўні не вокладкі, а самога тэксту.

Але пакінем агульныя развагі — пяройдзем да канкрэтных прыкладаў. Давайце пачнем з пачатку і возьмем адзін з першых тэкстаў — «Нарвежскі лес», выдадзены ў 1987 годзе. Гэты раман і сёння лічыцца адным з самых знакавых у творчасці аўтара. У ім Муракамі вельмі «асабісты» і вельмі асцярожны. Заўважна, што пісьменнік піша нешта «сур'ёзнае», што яго не задаволіць роля падлеткавага аўтара.

Аднак Муракамі не рашаецца далёка адысці ад публікі. Інтэлектуальная гульня тут вядзецца ў адкрытую, усе алюзіі вядомыя. Не лічыць жа намёк на «Бітлз», наўпрост з вядомай назвы (Norvegian wood), гульнёй для знатакоў складанай (элітарнай) літаратуры?! Гэта хутчэй праца з масавай культурай. І разгадаць тамтэйшыя рэбусы можа кожны.

А што ж з сюжэтам, гісторыяй? У цэнтры ўвагі — жыццё бунтуючай моладзі, падлеткаў. Знаёмы прыём: маладой аўдыторыі падабаецца чытаць пра саміх сябе. Не выпадкова сучасная і японская, і заходняя літаратура поўніцца героямі-падлеткамі, якія расследуюць таямнічыя злачынствы або ратуюць свет ад прышэльцаў. Зразумелая рэч, з такімі задачамі шаснаццацігадовы падлетак справіцца нашмат лепш, чым яго бацькі. Дарослыя — гэта баласт. І ў свеце «Нарвежскага лесу» (і не толькі) доля дарослых — пасіўнае існаванне, успаміны і настальгія. Маладосць паўстае самым важным этапам у жыцці, за якім толькі сумнае дарослае жыццё, — таксама вельмі «ў духу» «школьнага» погляду на жыццё.

У падлеткаў сапраўдныя адносіны, каханне. І, вядома, тут не абысціся без трагедыі. Адзін з падлеткаў, сябар галоўнага героя, паканчвыў з сабой, пакінуўшы сваю дзяўчыну ў слязах і здзіўленні. Дзяўчына ж — такі ж падлетак — зразумела, вырашае, што сапраўднае каханне памерла...

Так, у маладосці чалавек любіць паразважаць аб смерці. І чым шчаслівейшае грамадства, тым больш кахае: трэба ж чымсьці нервы паказытаць, адтуль і такія сюжэтныя хады. І, вядома, юнацкі максімалізм у дадатак. Ну і, зразумела, дзяўчыны, дзяўчыны, дзяўчыны — цэлы кветнік.

Сумная і лёгкаранімая Наока, вясёлая і жыццярадасная Мідоры, і проста каханыя-аднадзёнкі. Розныя тыпажы — розныя пасцельныя сцэны.

Японскія трэнды, мабыць, лепш за ўсё прыладзіліся да ператварэння кахання ў прадукт, у калекцыю і гербарый з розных характараў. Для хлопчыкаў — гісторыі, дзе шмат дзяўчат, для дзяўчат — гісторыі, дзе шмат хлопчыкаў.

Такім чынам, можам зрабіць выснову, што Муракамі ў першую чаргу звяртаецца да мужчынскай аўдыторыі. Жаночая таксама чытае, бо, відаць, не такая распешчаная — інакш наўрад ці той прыём спрацаваў бы.

Словам, хто б што ні казаў, а ў сваіх першых раманах Муракамі строга прытрымліваецца запытаў публікі.

## Сакрэт № 2. Дастаеўскі

Наступаюць дзевяностыя, і ў Муракамі выходзіць «Хронікі заводной птушкі» (1992—1995) — яшчэ адзін яго знакавы тэкст.

Аўтар умацаваў сваё месца ў літаратурным працэсе. Ці адчуў ён сябе больш упэўненым? Адназначна так.

Моладзь, вядома, нікуды не знікне. Але ўжо стала менш «Бітлз» і больш Дастаеўскага. Муракамі пераходзіць з масавай поп-культуры да масавай класікі.

Не сакрэт, якое вялікае значэнне маюць для японскай літаратуры слынныя сусветныя аўтары, у першую чаргу — рускія. Дастаеўскі, Гоголь, Чэхаў — яны, можна сказаць, амаль «з'елі» сучаснае японскае пісьменства: ад Ру Муракамі да Харукі Муракамі. Мабыць, перайманне — гэта галоўны бізун японскай літаратуры сёння. Але наследаваць Дастаеўскаму — гэта не сорамна, і гэта яшчэ трэба ўмець.



Фота yakaboo.ua

Харукі Муракамі.

Муракамі пераймае, згушчаючы фарбы. Дастаеўскага за мяжой прывыклі прачытваць праз паняцці «тлен», «заняпад», «вар'яцтва» і «роспач». Муракамі, разумеючы, што яго аўдыторыя падрастае, павольна і акуратна пераносіць сваю ўвагу з актыўных і смелых школьнікаў і студэнтаў на тых самых пасіўных і настальгуючых дарослых. На сцэну выходзіць другі тып галоўнага героя Муракамі: героя падкрэслена слабага і пасіўнага. Але ўсё гэтак жа акружанага жаночымі персанажамі — куды ж без іх. Але ў гераінь таксама з'яўляецца якое-ніякое эмацыйнае жыццё. Яны ўсё менш нагадваюць збор карцінак.

І ўсе тыя песімізм і разгубленасць, што была вычытана ў Дастаеўскага, Муракамі ўлівае ва ўласныя працы. Яны становяцца ўсё менш зразумелымі. Сюжэт размываецца. З'яўляецца элемент выпадковасці і раздвоенасці.

Апошняе, праўда, пададзена з тлустым намёкам: адна з галоўных гераінь носіць імя Куміка, што сугучна з мянушкай чароўнай лісы ў японскім фальклоры. Гэтая ліса ўмее змяняць знешнасць і прыкідвацца чалавекам. Так і ў «Хроніках» Куміка мае некалькі твараў.

## Сакрэт № 3. Кафка

Дастаеўскі — не адзіны настаўнік Муракамі. Але агульную лінію развіцця — пасіўнасць, разгубленасць, сум — задае менавіта ён.

У XX стагоддзі Муракамі знаходзіць для сябе прадаўжальніка гэтай лініі — Франца Кафку. Кафка таксама ўспрымаецца ў лоб, у самых відавочных яго праявах. І галоўнае, што бярэцца ад аўстрыйскага пісьменніка, — гэта погляд на рэальнае жыццё як на абсурд, ланцужок выпадковасцяў, якія пры гэтым нібыта валодаюць нейкім сваім недасягальным сэнсам.

Да Кафкі далучаюцца і французскія экзістэнцыялісты — Камю, Сартр — з іх адхіленым поглядам на тое, што адбываецца. Скажам, «Кафка на пляжы» мог бы называцца «Камю на пляжы». Кафка — так завуць галоўнага героя — пераемнік «Чужаніцы» з аднячасова вострым і пры гэтым адчужаным стаўленнем да свету.

Інтэлектуальная гульня стала больш вытанчанай — цяпер перад намі міфы. Паказальна, што еўрапейскія міфы. Муракамі відавочна прэтэндуе на агульнасусветную аўдыторыю.

Урэшце, цяжка знайсці японскага аўтара, за якім бы Муракамі так аддана ішоў, як за Дастаеўскім ці Кафкай.

## Сакрэт № 4. Адмова ад трэндаў

У 2014 годзе выходзіць яго зборнік апавяданняў «Мужчыны без жанчын». Муракамі ўжо вядомы і заслужаны аўтар са шматлікімі ўзнагародамі. Ужо яго пераймаюць, ужо на ягоныя сюжэты здымаюць фільмы. І, нарэшце, аўтар можа дазволіць сабе быць самім сабой, не губляючы пры гэтым аўдыторыю. Бо стрыжань гэтай аўдыторыі — людзі, якія будуць у любым выпадку чытаць Муракамі — ужо сфармаваны.

Сама назва зборніка вельмі сімвалічная, асабліва для Муракамі, які да гэтага багата частаваў і чытачоў, і чытачак рознымі — вясёлымі і сумнымі, маладымі і сталымі — жанчынамі. Не, адносіны засталіся, але заўважна, што яны больш не выкарыстоўваюцца для прыцягнення публікі, што прыемна і яшчэ больш прыцягвае публіку.

Аўдыторыя таксама любіць вучыцца і часам нават цешыцца, калі нехта паводзіць сябе супраць сваіх жаданняў. Але такое яна гатова дараваць толькі адзінкам.

У гэтым выпадку ўжо спрацоўвае фенамен папулярнасці. Ад прызнанага аўтара чакаюць зусім іншага. Калі пачатковец-пісьменнік павінен падладжвацца, бо раскрытыкаваць яго — вельмі проста, то Муракамі ў XXI стагоддзі ўжо можа абараняцца тым, што гэта чытач нешта не зразумеў.

Муракамі дазваляе сабе ўжо цікавейшую постмадэрнісцкую гульню, і не толькі з заходняй спадчынай, але і з усходняй (напрыклад, апавяданне «Шахразада»). Ён становіцца аднячасова больш зразумелым і інтэлектуальным. Няма больш бравіравання складанымі ідэямі, запазычанымі ў кагосьці, і застаецца больш прасторы для ідэй самога аўтара.

Застаецца толькі пажадаць Муракамі ўсялякіх поспехаў і трымацца далей ад трэндаў, бо яны могуць сцягнуць да сябе ў любы момант.

І калі нешта з вышэйнапісанага здалося вам залішне вострым ці, наадварот, павярхоўным у адносінах да Муракамі, то не варта перажываць. Муракамі цяпер знаходзіцца на такой вышыні, што яму ўжо не можа нашкодзіць ніводны крытычны разбор.

*Пераклад з рускай*

# Прэмія шэйха Заеда

У Абу-Дабі ўзнагародзілі лаўрэатаў Кніжнай прэміі шэйха Заеда — адной з самых буйных узнагарод свету (мільён дырхамаў ААЭ, або каля 900 000 беларускіх рублёў).

Сярод асноўных намінацый самая значная ў грашовым выражэнні (звыш 250 тысяч еўра) стала спецыяльная прэмія за заслугі ў галіне культуры (Cultural personality of the year). Ёю ўганаравана Casa Árabe — «Арабскі дом» у Іспаніі.

З моманту свайго заснавання ў 2006 годзе, падкрэсліваюць арганізатары прэміі, Casa Árabe праводзіць працу, якая садзейнічае разуменню і прасоўванню арабскай культуры ў Еўропе і краінах Лацінскай Амерыкі, умацаванню агульных каштоўнасцяў і ўзаемаразумення. Аднагалоснае рашэнне апякунчай рады і навуковага камітэта прэміі падкрэсліла ключавую ролю лаўрэата ў збліжэнні арабскай і іспанскай культур і яго ўнікальны падыход, накіраваны на развіццё дыялогу паміж цывілізацыямі.

— Для Casa Árabe гэтая ўзнагарода — вялікі стымул для працягу працы па ўзаемным культурным абмене і вывучэнні сувязяў паміж іспанскім грамадствам і арабскім светам, — заявіла ў прамове генеральны дырэктар арганізацыі-лаўрэата Ірэне Ласана Дамінга.

Casa Árabe размешчана ў Мадрыдзе і Кардове. Гэтая структура — стратэгічны цэнтр адносін і сумесных праектаў Іспаніі з арабскім светам, месца сустрэч прыватных і дзяржаўных арганізацый бізнэсу, адукацыі, навукі, палітыкі і культуры, а таксама платформа публічнай дыпламатыі. Сярод праектаў кампаніі — моўны цэнтр з курсамі арабскай мовы, а таксама лекцыі, канферэнцыі, клуб арабскага кіно, канцэрты і майстар-класы па каліграфіі для дзяцей і дарослых.

Лаўрэаты астатніх намінацый прэміі шэйха Заеда атрымаюць па 750 000 дырхамаў ААЭ.

Прэмія арганізавана Цэнтрам арабскай мовы Абу-Дабі пад эгідай Дэпартамента культуры і турызму Абу-Дабі.

# Прэмія імя Драгамана

Лаўрэатам Прэміі імя Драгамана 2024 года (Drahomán Prize) стала перакладчыца з украінскай на польскую мову Катажына Катыньска. Яна вылучана Пасольствам Украіны ў Польшчы за пераклад кнігі Аксаны Забужка «Самая доўгая вандроўка». З 2023 года ўзначальвае кафедру ўкраіністыкі Інстытута ўсходнеславянскай філалогіі Ягелонскага ўніверсітэта.




«Акунуцца ва ўкраінскія тэксты — гэта найлепшая прыгода, якую я магу прыдумаць на доўгія гады», — сказала Катажына Катыньска падчас цырымоніі ўзнагароджання.

Спецыяльную прэмію «за навядзенне ўкраінска-грузінскіх культурных мастоў» атрымаў Рауль Чылачава, перакладчык з украінскай мовы на картвельскую, доктар філалагічных навук, заслужаны дзеяч мастацтваў Украіны.

Прэмія імя Драгамана была заснаваная Украінскім інстытутам, Украінскім ПЭН-цэнтрам і Украінскім інстытутам кнігі ў 2020 годзе з мэтай падтрымкі і прызнання перакладчыкаў з украінскай мовы на мовы свету. Прэмія прысуджаецца за высокае перакладчыцкае майстэрства і ўклад у папулярызацыю ўкраінскай літаратуры за мяжой.

# Знойдзены кнігі братоў Грым

27 кніг з асабістай бібліятэкі братоў Якаба і Вільгельма Грым былі знойдзены ва ўніверсітэце Адама Міцкевіча ў Познані. Яны лічыліся страчанымі пасля Другой сусветнай вайны.

Браты вядомыя перш за ўсё сваімі зборнікамі казак, якія лічацца класікай сусветнай літаратуры. Але большую частку жыцця яны прысвяцілі вывучэнню нямецкай філалогіі. Таксама захапляліся зборам старажытных кніг, у тым ліку старажытных гравюр і рукапісаў на розныя тэмы. Абодва мелі юрыдычную адукацыю.

Калекцыянаваннем браты не абмяжаваліся. Над сваімі знаходкамі працавалі і як лінгвісты, разглядаючы кнігі найперш як інструмент. Таму яны пакідалі ў кнігах — нават на самых рэдкіх гравюрах — сляды свайго ўважлівага




прачытання: падкрэсліванні, запісы і пазнакі, часам нават шпількай.

«У знойдзеных публікацыях вылучаюцца персанажы або месцы, якія іх цікавілі, часам гэта больш доўгія часткі тэксту. На адваротным фарзацы Якаб часта рабіў спісназіраных фрагментаў, напрыклад, запісваў імёны і старонкі, на якіх яны былі знойдзены», — адзначалі даследчыкі творчасці братоў Грым. Навукоўцы падкрэсліваюць, што гэтыя запісы маюць вялікае значэнне для вывучэння спадчыны братоў Грым, бо могуць дапамагчы зразумець іх метад працы і выбар матываў у казках. У заўвагах на палях могуць захоўвацца матывы герояў і паходжанне неверагодных казачных істот.

Калекцыя Вільгельма і Якаба, якую яны збіралі за 60 гадоў творчай працы, калісьці налічвала больш за 8000 розных выданняў. Захаваныя асобнікі разглядаюцца ў Германіі як асобны прадмет даследавання. Лічыцца, што кнігі трапілі ва ўніверсітэцкую бібліятэку ў Познані ў пасляваенны час. Аднак устаноўлена, што прынамсі дзве з іх былі перададзены Польшчы значна раней — у 1898 і 1899 гадах.

# Зніклі рэдкія выданні Пушкіна

Супрацоўнікі паліцыі расследуюць тое, што, на іх думку, з'яўляецца буйной скаардынаванай серыяй крадзяжоў з бібліятэк па ўсёй Еўропе рэдкіх расійскіх кніг XIX стагоддзя — у першую чаргу першых і ранніх выданняў Пушкіна. Злодзеі часта замяняюць кнігі іншымі папяровымі асобнікамі і выносяць іх з бібліятэк.

Паводле звестак Еўрапола, з 2022 года з бібліятэк Германіі, Фінляндыі, Францыі, Латвіі і іншых краін знікла больш за 170 кніг на суму больш за 2,6 мільёна долараў. Найбольш пацярпела бібліятэка Варшаўскага ўніверсітэта, дзе знікла 78 кніг. Улады арыштавалі дзевяць чалавек у сувязі з крадзяжамі, але хто за імі стаіць, застаецца адкрытым пытаннем.

# Кніга казак за 215 тысяч еўра

У Кёльне на аўкцыёне «Venator & Hanstein» рэдкі асобнік першага выдання «Дзіцячых і сямейных казак» братоў Грым «пайшоў з малатка» за 215 тысяч еўра.

Пачатковы кошт лота складаў 100 тысяч еўра. Па словах аўкцыённага дома, гэта самы высокі кошт, які калі-небудзь быў атрыманы за рэдкі асобнік кнігі.

У апісанні лота было пазначана, што гэта двухтомнае выданне «Kinder- und Hausmärchen». Гэта зборнік казак, сабраных і літаратурна апрацаваных нямецкімі казачнікамі Якабам і Вільгельмам Грымамі. Упершыню казкі з'явіліся асобнай кнігай пад назвай «Дзіцячыя і сямейныя казкі, сабраныя братамі Грым», якая выдавалася паміж 1812 і 1815 гадамі, а першы том выйшаў на Каляды 1812 года. Іх агульны наклад склаў 700 асобнікаў.

Як паведамлялася ў апісанні лота, многія асобнікі былі пашкоджаныя. Выстаўлены ж на аўкцыён асобнік выдатна захаваўся, што з'яўляецца вялікай рэдкасцю.

Шаснаццаць арыгінальных асобнікаў гэтай кнігі з пазнакамі, каментарыямі і дапаўненнямі братоў Грым у 2005 годзе былі абвешчаны ЮНЕСКА дакументальнай спадчынай чалавецтва.

# Міжнародны літаратурны кангрэс у Вільні

Упершыню ў Вільні адбыўся Міжнародны літаратурны кангрэс для літаратараў-прафесіяналаў. У травеньскай пяцідзёнцы былі прадстаўлены віленскія пісьменнікі, літаратурныя ініцыятывы, імпрэзы, літаратурныя навуковыя мерапрыемствы, дыскусіі, чытанні, экскурсіі.

Кангрэс сабраў удзельнікаў з многіх краін.

«Яшчэ нядаўна ЮНЕСКА надавала Вільні статус горада літаратуры, а сёння мы бярэм на сябе лідэрства і ўмацоўваем міжнародныя сувязі літаратурнай супольнасці, запрасілі прадстаўнікоў гарадоў-удзельнікаў пазнаёміцца з ініцыятывамі і дзейнасцю Вільні. Я спадзяюся, што гэтая падзея раскрые і прадставіць унікальны вопыт горада, заахвоціць новыя літаратурныя ініцыятывы і праекты і ўзмоцніць значнасць літаратуры для гарадоў», — адзначыла віцэ-мэр Вільні Сімона Белюнэ.

Адбыліся сустрэчы з арганізатарамі віленскага фестывалю, рэдактарамі літаратурнай прэсы, выдаўцамі. Госці наведалі Віленскі ўніверсітэт, Віленскую гарадскую публічную бібліятэку і Нацыянальную бібліятэку імя Марцінаса Мажвідаса. Была арганізавана экскурсія па літаратурнай Вільні з паэтам і перакладчыкам Рымусам Ужгірысам.

У кангрэсе прынялі ўдзел госці з Францыі, Венгрыі, Вялікабрытаніі, Германіі, ЗША, Швецыі, Румыніі, Украіны, Чэхіі, Балгарыі, Беларусі, Польшчы і Славеніі.

# Матыў Акуджавы

## *Да стагоддзя творцы*

9 траўня 1924 года ў Маскве ў сям'і рэвалюцыянераў нарадзіўся Булат Акуджава, будучы паэт, празаік, сцэнарыст, бард, кампазітар.

Яго магнітафонныя запісы і кружэлкі — гэта тое, міма чаго амаль немагчыма было прайсці ў 1960—1980-я. Акуджаваўская інтанацыя — сур'ёзная, крыху какетлівая, сумная, часам — іранічная, — станавілася натуральным працягам жыцця, як высокім душэўным вымярэннем. Нават маўчанне, нават паўзы мелі значэнне.

Ён стаў сапраўдным важаком прыкметнай часткі чытачоў, аматараў паэзіі і гістарычных раманаў. Не будзем саромецца гучных слоў — стаў кумірам. А потым — проста прызнаным мэтрам.

У шасцідзясятыя галоўным матывам эпохі быў пафас: можна ўзгадаць Яўгенія Еўтушэнку, Уладзіміра Высоцкага, многіх пісьменнікаў таго часу. Яны змагаліся і перамагалі. А Акуджава, хоць і значыўся з хрушчоўскіх гадоў у шэрагах КПСС, складаў напаўголаса і рэдка звяртаўся да «шырокіх грамадскіх тэм». Ён амаль не пісаў пра будоўлі і домны, ды і маралізаваў не ў грамадскіх танах. Яго каронная і абжытая тэма — прыватнае жыццё амаль вольнага чалавека.

Акуджава амаль не красуецца рыфмамі, рытмамі і метафарамі, усё ўпісана ў гармонію без швоў. У параўнанні з Вазнясенскім, Еўтушэнкам, Ахмадулінай ён гучаў як прышэлец з мінулага стагоддзя. Але іх сяброўству гэта не перашкаджала. Акуджава складаў цудоўныя казкі для дарослых, якія існавалі ў вечным гістарычным часе.

Яго мелодыі ішлі ад аркестроўкі верша, але гэта не спрашчала музычную задачу.

Акуджава ніколі не быў адным са шматлікіх, ён ганарліва трымаўся на адлегласці ад усіх — і ад афіцыйных савецкіх паэтаў, і ад неспакойных маладых, якія нярэдка яго амаль абагаўлялі. Вельмі хутка ён пачаў нагадваць грузінскага арыстакрата, якому не месца ў натоўпе.

Часам Акуджава пісаў параўнальна кароткія песні, з якіх няцяжка было б выцiснуць паэму. Гэта, напрыклад, «Развітанне з навагодняй ёлкай».

Ён пазбягаў банальнасцяў, хоць не баяўся прастаты. Атрымлівалася ўзвышана, часам загадкава, амаль заўсёды — з высокай сентыментальнасцю.

Вакол яго даўным-даўно ўзнікла асаблівая міфалогія, рытуалы і закамянелыя эпітэты. Арбат, грузінскія матывы... Помнік на Арбаце — таксама частка акуджаваўскага міфа.

Ён звязаны і з перадваеннымі «шкалярамі», і з франтавым пакаленнем, і з «дзецьмі адлігі». У значнай ступені ён — паэт пакаленняў.

Але паэтаў, якія належаць мінуламу, не бывае. І многія вершы Акуджавы яшчэ абавязкова вернуцца — з мелодыямі ці без.

Булат Акуджава памёр у Парыжы, які тады, у 1997 годзе, стаў крыху бліжэй да былых савецкіх людзей...

**Арсень ЗАМАСЦЬЯНАЎ**



Помнік Булату Акуджаву на Арбаце

Фота wikipedia.org